# Князь Вітаўт

**Трагедыя**

**ДЗЕЙНЫЯ АСОБЫ**

Купала — князёўна Жыцця.
Вітаўт — вялікі князь літоўскі.
Ягайла — вялікі князь літоўскі.
Кейстут — вялікі князь літоўскі.
Кудаш — стражнік Вітаўта.
Амуліч — стражнік Кейстута.
Дамаш — баярын.
Люцень — стражнік Ягайлы.
Алёна — пакаёўка.
Княгіня Анна.
Каралева Ядвіга.
Алясніцкі — біскуп кракаўскі.
Арцыбіскуп.
Вільгельм — прынц аўстрыйскі.
Камандор.
Рамеснік.
Лучнік.
Ваявода.
Першы стражнік.
Другі стражнік.
Беражніцы, дзяўчаты, ратнікі, дружыннікі, прыдворныя, паслы, ганцы.

Дзеянне адбываецца ў Вялікім княстве Літоўскім і ў Польшчы напрыканцы XIV стагоддзя.

# АКТ ПЕРШЫ

## Сцэна першая

Лес перад замкам у Гародні. З'яўляецца К у п а л а.

К у п а л а

Вось-вось зямлю акрые лёгкі змрок,
І я лясы напоўню пахам мёду
І водарам лясных чароўных траў,
Што робяць кроў гарачай і ўзбуджаюць
Жаданне быць каханым і кахаць,
Жаданне быць каханай і жаданай.
З сівых вякоў у час буяння лета —
Кароткі час паміж змярканнем дня
І ранкам дня наступнага. Бывае
Сонцавароту свята. Светлы люд,
Што паадрокся ад багоў паганскіх,
Нясе даніну мне адной — К у п а л е,
Жыцця князёўне, гаспадыні лесу.
Па ўсіх лясах, гаях і змрочных пушчах
Мяне бялявыя дзяўчаты ў песнях славяць
І ўюць вяночкі з яркіх красак лета.
І вогнішчы па берагах азёр і рэк —
Як кроплі сонца: горача нябёсам.
Зямля паўнютка патаемных гукаў
У гэту ноч. І шорахі, і цені
Па ўсіх лясах спраўляюць летні баль.
З людзьмі жартуюць лесавік і хохлік,
І ў лесе кветка-папараць гарыць
У вочы тым, хто не спазнаў кахання.
Калі ж дзянніца золатам абмые
Дубоў, бяроз і елак вяршаліны,
Усіх прымаюць у абдымкі воды. Азёр і рэк.
Так раз на год Купалу люд мой славіць.
Тут духі продкаў водзяць карагоды...

З'яўляюцца д з я ў ч а т ы. Водзяць карагоды. Спяваюць.

Д з я ў ч а т ы

У пана Івана
Пасярод двара
Стаяла вярба.
На вярбе гарэлі свечкі,
З той вярбы
Кропля ўпала,

Возерам стала,
У возеры сам бог купаўся,
З дзеткамі, з дзеткамі.

З'яўляюцца князь Вітаўт і Кудаш.

Кудаш
Гэй, князь, зірні! Ой, што за хараство!
Вось постаці, якіх баіцца цемра.
Не ведаю, што свеціцца ярчэй
У небе — месяц срэбны, круглатвары
Ці грудзі прыгажунь — тваіх падданых.

Вітаўт
Кінь блазнаваць!

Кудаш
Раблюся блазнюком
Штогод я на святую ноч Купалля!

Вітаўт
Вось гэта называеш ты святым?

Кудаш
А што ж тады святое, любы княжа?
Хрышчоны я і, колькі сіл стае,
Малюся, каб пазбавіцца спакусы,
Але слабы я, грэшны чалавек,
Хоць раз на год дазволь пабыць паганцам.
Магутны Божа...

Вітаўт
Хопіць! Замаўчы!

Кудаш
Я потым замалю свае грахі!
Ноч на Купалле — толькі бліскавіца,
А потым цэлы год: даруй! ратуй! прабач!
Не буду... да наступнага Купалля.

Вітаўт
Як ахрысціць такога вось змаглі?

Кудаш
Хрысціў Альгерд, Ягайлаў бацька, так:
Усё сяло уздоўж Дняпра паставіў
І меч дастаў. Хто мне не вораг, кажа,
Умэнт змяніць усіх багоў на Бога
Адзінага. Збавіцеля Хрыста.
Я першы скочыў з берага ў Дняпро
І першы ахрысціўся. Не хапала,
Каб князь ды быў за ворага ў мяне!

Вітаўт
Ну а Пярун? За здраду ж пакарае.

Кудаш

А я маленькі, хіба ж ён пацэліць
З нябёсаў у такога чарвяка?

Вітаўт

Кудаш, у што ж ты верыш?

Кудаш

Адкажу —
У Троіцу святую: Бацьку, Сына, Духа,
Таксама ж паважаю Перуна,
Нядобрыка, Лесавіка, Анчутку,
Палудніцу, Ляшэню, беражніц,
Не дай Бог пасварыцца і з Дажбогам.
Ну, там яшчэ Ядрэй і Абілуха,
Без іх паганым будзе ураджай,
А калі Жыцень поле не вартуе,
То хлеба хопіць толькі да вясны.
Яшчэ сыны Ягі: то Везі, Пузі, Сіні,
Ну, Дамавік, і Баннік, і Дзядзюль,
Нямыцік, Зюзя, Маўка і Шышыга.

Вітаўт

Ды ратнікаў, напэўна, менш у князя,
Чым у цябе багоў.

Кудаш

Галоўная ж — Купала,
Царыня наша. Гэта сёння ёй
Спяваюць песні, ладзяць карагоды,
Яна жыве нядоўгае жыццё
Тут, на зямлі... Кароценькая ночка
Ёй дадзена, каб падарыць любоў.
Пасля ж прымае агнявую смерць
На цэлы год, да новага Купалля.

Дзяўчаты *(спяваюць)*

Дзядзюль ды Купала
У возеры купаліся,
Дзе Дзядзюль купаўся,
Лес там калыхаўся.
Купала купалася,
Трава рассцілалася.

Кудаш

Бывай, мой князь, бо хутка прыйдзе дзень,
А ўдзень я, грэшны, каяцца павінны.

Вітаўт

Кудаш, спыніся!

З'яўляюцца б е р а ж н і ц ы.

П е р ш а я б е р а ж н і ц а

Бедны, бедны княжа.

Д р у г а я б е р а ж н і ц а

Набожны, строгі і жанок баіцца.

Т р э ц я я б е р а ж н і ц а

Дазволь нам, гаспадыня, паказаць
Дзяўчыну тую, што яго кахае
І шэпча, як малітву, імя Віта-а-ўт...

П е р ш а я б е р а ж н і ц а. Віта-а-ўт...

Д р у г а я б е р а ж н і ц а. Віта-а-ўт...

Т р э ц я я б е р а ж н і ц а. Віта-а-ўт...

К у п а л а

Я дазваляю.

В і т а ў т

Прэч адсюль хутчэй!
Паганствам гэты лес зачараваны,
Тут звіў гняздо нячысцік-ліхадзей,
Што вораг Богу, свету, чалавеку.

Беражніцы абкружаюць князя. Водзяць карагод. Спяваюць.

Б е р а ж н і ц ы

А ў садзе, а ў садзе ды тры садочкі,
А ў тых садочках ды тры цвяточкі.
У адным цвяточку рута ды мята,
Рута ды мята мне непрыятна.
Ў другім садочку ружова рожа,
Ружова рожа мне непрыгожа.
Ў трэцім садочку сінь васілёчак,
Сінь васілёчак мне на вяночак.

В і т а ў т

Скавала млявасць цела. Не хачу
Ісці за імі і брыду бязвольна
На заклік грэшны прывідаў лясных.

П е р ш а я б е р а ж н і ц а. Віта-а-ўт...

Д р у г а я б е р а ж н і ц а. Віта-а-ўт...

Т р э ц я я б е р а ж н і ц а. Віта-а-ўт...

К у п а л а

Ах, мілы віцязь! Хай твой зрок патухне,
Ты сэрцам бачыць будзеш яшчэ лепш
І, што пачуеш ад мяне,— забудзеш.
Ты не кахаў, ну а цябе кахае
З чужога княства русая дзяўчына
І за цябе аддасць сваё жыццё,

Ўратуе князя. Стане беражніцай,
Што служаць мне ў кароткі час Купалля.

Беражніцы *(спяваюць)*

З прыцемкаў — целы дзявочыя нашы,
Косы — з сівых туманоў,
Вочы мы маем ад зорак, мы скажам
Ўсё, што было і што збудзецца зноў.

Першая беражніца

Ты хочаш ведаць, хто цябе кахае?

Вітаўт

Мяне кахае жонка.

Другая беражніца

Што сілком
Смаленскі князь цябе любіць прымусіў,
За згоду з княствам ён аддаў дачку.

Трэцяя беражніца

Яна ж з сабой да вас прывезла тую,
Што ўсё сваё кароткае жыццё
Цябе любіць і зберагаць павінна.
Купала хоча так.

Вітаўт

Што ж, пакажыце,
Трызненне, мроя не грахі прад Богам.

Беражніцы прыводзяць з лесу Алёну. Вочы ў яе заплюшчаны.
Беражніцы пачынаюць расчэсваць ёй валасы.

Беражніцы *(спяваюць)*

А ўжо выплыла,
А ўжо выплыла
Вутачка з-пад беражка.
А ўжо вынесла,
А ўжо вынесла
Рыбную грабёначку.
Ёсць чым расчасаці,
Ёсць чым расчасаці
Алёначцы галовачку.

Вітаўт

Алёна?! То ж князёўны пакаёўка!

Купала

Яна сама князёўна у каханні...

Алёна

Мой любы, мілы княжа...

Вітаўт

Супыніся!
Няшчасная, ды як жа ты пасмела...

К у п а л а

Каханне не карона, храбры віцязь,
Яно зніжае ўладара да смерда,
А ўздыме і жабрачку да багоў...
Дзяўчына гэта воч падняць не смее
На князя цэлы год, а на Купалле,
У лес прыйшоўшы, тут цябе у мроях
Цалуе, песціць, ты яе паслухай.

В і т а ў т

Я не хачу!

К у п а л а. Так я хачу — Купала.

Бeражніцы водзяць каля Вітаўта і Алёны карагод.

А л ё н а

Мой любы! Мой каханы! Мой адзіны!
Далёкі мой і блізкі. Для мяне
Ты слодыч неба і мая пакута,
Ты радасць і пякельная журба,
Жыццё маё і смерць, я гэта знаю.
Малю Хрыста і ўсіх нашых багоў,
Каб адвялі хваробы і напасці
І ад цябе і ад князёўны Анны.
Каб у сям'і тваёй быў лад і згода,
Любоў... што гаспадыня дорыць целам,
Ты не сумуй, бо я люблю душой.
Вой Вітаўт, ты — няўрымслівы агонь,
А я — вада... Мы — родны брат з сястрою.
Нам не сысціся. Толькі на Купалле
Прыйдзі у сне і пацалуй мяне.

Б е р а ж н і ц ы

Прыйдзі у сне і пацалуй яе...

К у п а л а

Прыйдзі у сне і пацалуй яе.

Вітаўт абдымае Алёну.

Б е р а ж н і ц ы *(спяваюць)*

Ды на мора, гусі-лебедзі,
Ды на мора на сіненькае,
Там вада халодненькая,
Там трава зялёненькая.
Да шлюбу, маладая дзеванька,
Да шлюбу, маладзенькая.
Там табе ручкі звяжуць,
Там табе праўду скажуць.

З'яўляюцца князь Кейстут са світай, Кудаш, Амуліч.

Кейстут. Дзе Вітаўт?

Кудаш. Трошкі адышоўся.

Кейстут. Дык ты ж павінен быць каля яго!

Кудаш. Буду! Калі наваляцца татарын, турак, чорт, яшчэ які ліхадзей — буду! Побач! Заўжды! Як яго ўласная рука — куды ён, туды і я. Але... Вялікі князь... ну як жа тут быць побач, калі на Купалле... малады князь... трошкі... адышоўся.

Амуліч. Вялікі князь! Я раіў табе не раз: прагані ты гэтага юрлівага прахвоста. Заводзіць маладога князя, шэльма! Ад жонкі! Ад Бога! Паслухай старога слугу.

Кудаш

Хто хадзіць не можа, кажа: «Асалода —
Па-ста-яць!»
Хто стаяць не можа, кажа: «Во, святое —
Па-ля-жа-ць».
Грэшны, я хаджу, хаджу.
Грэшны, я стаю, стаю!

Кейстут. Вось зараз бізуном як хвастану, дык ляжаш!

Кудаш. Не, мой князь, падскочу!

Кейстут

Каб Вітаўт быў вось тут хоць з-пад зямлі!

Кудаш

Дык вось жа ён, на купіну прылёг,
Стаміўся, мабыць. Спіць мой любы княжа.

Кейстут

Гэй, Вітаўт! Вітаўт!

Кудаш

Князь, даволі спаць,
Закалыхалі, мабыць, беражніцы...
Князь...

Вітаўт

Не чапай, мне вельмі добра тут,
Сярод лясных істот і лёгкіх ценяў.

Кейстут

Пакіньце нас усе.

Усе кланяюцца і адыходзяць.

Ты ж падыміся.
Князь на зямлю кладзецца толькі мёртвым.

Князь Вітаўт падымаецца.

Знядужыўся, няшчасны. Як не брыдка!
Жанаты муж і бацька. Як блазнюк,
Аддаў сябе дзікунскаму абраду!

Вітаўт

Купалу бачыў я...

Кейстут

Пакуль ты сніў Купалу,
Твой брат Ягайла, мой пляменнік любы,
Што прысягаў прад Богам на крыжы
Сядзець спакойна ў Віцебску і з намі
Жыць у любові і ў братэрскай згодзе,
Сабраў сабак тэўтонскіх, неспадзеўкі
Напаў на Вільню.

Вітаўт

Быць таго не можа!

Кейстут

Не можа? Ёсць ужо! Вось толькі
Ганец прыбыў з адсечанай рукой!
Яе адсек Ягайла сам, сказаўшы,
Што такое ж з табой і мною будзе,
Калі толькі мячы свае падымем на яго!

Вітаўт

Дык крыжакі ўжо топчуць нашу Вільню?!
Хутчэй у Трокі!

Кейстут

Позна! Ён і Трокі
Здабыць паспеў. І гэта сын Альгерда,
З якім мы будавалі родны край,
Які лічыў каштоўнасцю вышэйшай
Спакой, любоў, лад у Вялікім княстве,
Быў першы сярод роўных. А нашчадак
Стаў братам ворагу і люты вораг брату.
Чаго маўчыш?

Вітаўт

Не ведаю, што й думаць.

Кейстут

Дарэмна я цябе паслухаў, даўшы
Пачвары гэтай Віцебскі пасад.
Для злодзея пасад — турма. Карона — краты.
Хто мне крычаў: я веру, веру брату!
Не можа быць братэрства між братамі,
Калі адзін з іх воўк.

Вітаўт

Дазволь мне
На перамовы ў Вільню зараз ехаць.

Кейстут

Дазволю войска найхутчэй сабраць
І выгнаць з Вільні вылюдка, што здрадзіў

Зямлі літоўскай, хто братам жадае
Пагібелі. Шчаслівы князь Альгерд!
Ты ў час памёр. Да гэтага дажыўшы,
Ты б дужа шкадаваў, што нарадзіўся.
Збірай дружыны. Руш хутчэй на Трокі.
Я ж — да Андрэя ў Полацк. Мы ўсе разам
Хрыбціну зломім рыцарам тэўтонскім,
Змяцём і ваўкалака-сваяка.

В і т а ў т
Дык гэта ж кроў.

К е й с т у т
Калі б не выпадковасць,
Твая з маёй сцякла б з мячоў крыжацкіх
Яшчэ учора. З імі дамаўляўся
Даўно Ягайла.

В і т а ў т
Гэта мне вядома.

К е й с т у т
Якой жа ты спалохаўся крыві?

В і т а ў т
Брат супраць брата — страшны грэх прад Богам!

К е й с т у т
Перад якім? Тэўтонскім? Рымскім? Нашым?

В і т а ў т
Перад Хрыстом!

К е й с т у т
Ягайлу гэта скажаш,
Адбіўшы Трокі з Вільняй у яго
І выгнаўшы з зямлі дзядоў чужынцаў!
Дагэтуль хай Хрыстос глядзіць з нябёсаў
На тое, як ліцвін грызе ліцвіна!
Я падстаўляў шчаку пасля удару,
Ён зноў ударыў! Што ж мне падстаўляць?!
Усё! Размову скончым пасля бітвы.
Я ў Полацк. Ты ж з дружынаю на Трокі!

Разыходзяцца. З'яўляецца К у п а л а.

К у п а л а
З любові гэты створаны Сусвет,
Любові ж творца — будаўнік Сусвету.
Калі нянавісць, ганарлівасць, зло
Не знойдуць месца ў сэрцы чалавека,
Сыдуцца разам цемра і святло,
Цяпло і холад. Заўтра і учора,
Жыццё і смерць. Пачатак і сканчэнне.
*(Уваходзіць у адно з вогнішчаў і згарае.)*

## Сцэна другая

Гародня. Пакой у замку Вітаўта. Раніца.
А л ё н а прыбірае к н я г і н ю А н н у.

К н я г і н я А н н а

Алёна, як сяброўцы, раскажы,
Што ты рабіла ноччу на Купалле?

А л ё н а

Пляла вяночкі.

К н я г і н я А н н а

А яшчэ, яшчэ?

А л ё н а

Пад месяц свае грудзі падстаўляла,
Каб поўнымі, як ён, заўжды былі,
Купалася.

К н я г і н я А н н а

Хто абдымаў?

А л ё н а

Не помню.

К н я г і н я А н н а

Не помніш? Але ж нехта абдымаў?

А л ё н а

Ой, не, княгіня, далібог, не помню,
Купальскай ноччу ў галаве туман.

К н я г і н я А н н а. Табе ўжо час падшукваць князя.

А л ё н а. Якога князя?

К н я г і н я А н н а. Жаніха... Хочаш замуж?

А л ё н а. Не, не хачу.

К н я г і н я А н н а. Чаму ж?

А л ё н а. Так Бог судзіў... Мой ад мяне далёка, хто ж мкнецца да мяне, ад тых далёка я.

К н я г і н я А н н а. Далёка, кажаш? Дык давай пашлём ганца.

А л ё н а. Туды ён не даскача. Ах, мая княгіня, калі б ты ведала, як я люблю цябе.

К н я г і н я А н н а

I я цябе люблю, Алёна. Усё ж скажы,
Хто замак збудаваў ў тваім дзявочым сэрцы?

А л ё н а

Ой, не, княгіня, лепей не пытайся!

К н я г і н я А н н а

Скажы...

А л ё н а

Не трэба!

Княгіня Анна

Я дапамагу.

Алёна

Мне дапаможаш ты? Ой, мілая княгіня,
Калі б ты знала...

Княгіня Анна

Што?

Алёна

Далёка вельмі ён.

Княгіня Анна

Запрасіць князь яго да нас у княства
Ці выкупіць, калі не вольны ён.

Алёна

Не, вольны, але выкупіць няможна.

Княгіня Анна

Жанаты?

Алёна

Так.

Княгіня Анна

Прачыстая Марыя!

Алёна

Любоў да Бога, кажуць. Калі грэх —
Каханне гэта, значыць, грэх ад Бога.

Княгіня Анна

Алёна, што ты кажаш?

Алёна

Я кахаю!
Хай гэта грэх. Дык гэта і збавенне.

Княгіня Анна

Здаецца, князь.

Уваходзяць Вітаўт і Кудаш.

Вітаўт

Пакіньце нас з княгіняй.

Кудаш і Алёна кланяюцца і выходзяць.

Княгіня Анна

Вітаю з ранкам светлым, любы княжа!
Дзе ты правёў святую ноч Купалля?
Ты, можа, кветку-папараць знайшоў?
Ці стрэў Купалу?

Вітаўт

Гэтая дзяўчына,
Што тут была, адкуль яна?

Княгіня Анна

Алёна?
Яна ж сюды прыехала са мной,
Штовечар сцеліць ложа мне і князю.
Прыгожая?

Вітаўт

Нахабны, дзёрзкі позірк!

Княгіня Анна

Няпраўда гэта. Не ў гуморы князь,
Алёна тваёй жонцы за сяброўку.

Вітаўт

Хай Бог нам толькі ворагаў пакіне,
Зратуе ж ад сябровак і братоў.
Бяда у княстве. Брат паўстаў на брата.
Ягайла ў Вільні. Рыцары у Троках,
Зноў гвалт, вайна.

Княгіня Анна

О, бедны наш народ!
Чым толькі правініўся ты прад Богам,
Каб жыць у акружэнні чорных сіл.
Быць занядбаным, ссечаным, забітым
Тэўтонцам, туркам і рукой сваіх сыноў!
Пашлі ганцоў да бацькі найхутчэй,
Смаленскі князь паможа.

Вітаўт

Не патрэбна.
Суседа запрашаюць толькі ў госці,
Ў час сваркі трэба дзверы зачыняць.
Зайшоў я развітацца. Еду ў Трокі.

Княгіня Анна

З дружынаю?

Вітаўт

Адзін.

Княгіня Анна

Князь, ты жартуеш!
Каб без мяча ды ў логава ваўка
Ісці?

Вітаўт

А меч крыві папросіць?
А гэта кроў знясіленых ліцвінаў,
Мы сварымся, а кроў ліюць яны.
Бывай, княгіня. Дзетак пацалуй,
Я веру, што Хрыстос нам дапаможа
Усталяваць спакой ў Вялікім княстве.

Княгіня Анна

Бывай, мой князь!

Выходзяць. З'яўляецца Алёна.

Алёна

О, гора! Гора! Гора!

## Сцэна трэцяя

Трокі. Пакой у замку. Князь Ягайла з чарай віна.

Ягайла

Калі, хто і нашто кроў параўнаў з віном
І з хлебам цела. Так, віно сп'яняе,
Жывём жа мы, з'ядаючы другіх.
Глынуў хоць раз — і ты п'яны ўжо,
Раз укусіў — і хочаш есці зноўку!
Не пі — тады не будзе мучыць смага.
Не еш — спатоліць голад нельга.
Гэй, Люцень!

Уваходзіць Люцень.

Люцень

Што князь загадае?

Ягайла

Яшчэ віна!

Люцень

Пі на здароўе, князь!

Ягайла

Сабе налі!

Люцень

Вялікі гонар.

Ягайла

Пі!

Люцень

Бог, блаславі пасад Літоўскі ў Вільні!

П'юць.

Ягайла. Што паведамляюць даносчыкі?

Люцень. Кейстут з невялікім атрадам выправіўся ў Полацк да свайго гарбатага нашчадка князя Андрэя.

Ягайла. Навошта?

Люцень. На падмогу, трэба думаць. Проста так ён вялікакняскі пасад не аддасць.

Я г а й л а. Велікакняскі пасад мой! Мой!

Л ю ц е н ь. Хай мне даруе вялікі князь. Я хацеў сказаць: проста так ён не скарыцца.

Я г а й л а. Чаму не паслаў дружыну напярэймы?

Л ю ц е н ь. Шляхоў багата ў Полацк. Па якім пойдзе Кейстут, не ведаюць і яго ратнікі.

Я г а й л а. А Вітаўт?

Л ю ц е н ь. Сядзіць у Гародні.

Я г а й л а. Ратнікаў збірае?

Л ю ц е н ь. Моліцца.

Я г а й л а. Яшчэ віна!

Л ю ц е н ь. Слухаю. *(Кланяецца і выходзіць.)*

Я г а й л а

Ты, Вітаўт, нарадзіўся быць другім,
Хаця па ўсім ты першы, мне вядома.
Як дзеўка, што народзіцца прыгожай,
Хоць у шаўкі яе, хоць у рыззё,
Ты хоць памый яе ці так пусці — нямытай,—
Прыгожая! А нейкая другая
Ваюе, каб багоў несправядлівасць
Хоць трошкі выправіць, з прыгожаю зраўняцца.
І мые твар крывёй і малаком,
І акунае сваё цела ў зёлкі,
І косткаю з хрыбта пярэстай стронгі
Расчэсвае нанач валасы.
Ну дык якая ж вартая павагі?
Хто атрымаў нябёсаў падарунак
Ці хто стварае боскае рукамі?
Як гэта я раблю. О не, мой браце!
Табе для першынства ўсё дадзена багамі,
А я рабіў ды і зраблю ўсё сам.

Уваходзіць Л ю ц е н ь.

Л ю ц е н ь. Віно для князя. Хай вялікі князь даруе, калі засмучу.

Я г а й л а. Кажы!

Л ю ц е н ь. Увесь люд у Вільні і ў Троках адракаецца ад прысягі Кейстуту і нанава прысягае вялікаму князю Ягайлу.

Я г а й л а

Ты гэтым засмуціць мяне баяўся?
Я ведаю паскудны свой народ,
Ён прысягне татарыну і турку,
Паляку і тэўтонцу, маскавіту
І Залатой Ардзе. Таму, хто зверху будзе,

Блудніца прысягне таму, хто болей дасць,
А гэты люд — хто абдзярэ дашчэнту.
Хай прысягаюць, бачыць не хачу.

Л ю ц е н ь

Адзін сказаў: не буду прысягаць.

Я г а й л а

Хто ён такі?

Л ю ц е н ь

Янук Дамаш. Баярын.

Я г а й л а

Так і сказаў: не буду прысягаць?

Л ю ц е н ь

Інакш сказаў: не прысягну Ягайлу.

Я г а й л а

Сюды яго!

Л ю ц е н ь

Ён тут.

Я г а й л а

Не, пачакай.
Тры чары бачыш? З золата. Вось срэбра.
І медзяная. Іх таўрыдскі князь
Прыслаў з паклонам некалі ў дарунак
Князю Альгерду. Мы праверым зараз,
Ці кемлівы ты, Люцень. Адкажы:
Жыццё, хвароба, смерць. Вось тры сястрыцы,
І кожная з сваёй чары п'е.
Якая і з якой?

Л ю ц е н ь

Падумаць трошкі трэба...
Здаецца мне, што медзь — гэта жыццё,
Хвароба ж болей ладзіцца са срэбрам,
А золата вышэйшае — то смерць.

Я г а й л а

Налі ж віна тры чары і сачы,
З якой я вып'ю.

Л ю ц е н ь

Тое й стацца мусіць.

Я г а й л а

Сюды яго.

Прыводзяць звязанага Д а м а ш а.

Які сабака асмеліўся звязаць таго, хто мае герб?

Д а м а ш. Эх, князь... Не крыўдна, калі вяжуць, крыўдна, калі звязанага б'юць.

Я г а й л а. Люцень!

Л ю ц е н ь. Слухаю князя!

Я г а й л а *(б'е яго)*. Не датыкай сваіх паскудных рук да чалавека, адзначанага Богам!

Л ю ц е н ь. Даруй, князь, вінаваты!

Я г а й л а *(б'е)*. Паважай тытул!

Л ю ц е н ь. Даруй, князь!

Я г а й л а. Я табе пакажу, як таптацца па тым, хто стаіць зверху, нават калі ён мне закляты вораг! Развязаць! Наступным разам павешу на гэтых вяроўках! Пайшоў прэч, нягодны!

Л ю ц е н ь кланяецца і выходзіць.

Дык як завуць цябе, шаноўны мой баярын?

Д а м а ш

Янук Дамаш.

Я г а й л а

Адкуль ты будзеш?

Д а м а ш

З Вільні.

Я г а й л а

Дык што, не хочаш, кажуць, прысягаць?

Д а м а ш

Я прысягаў аж тройчы за жыццё.

Я г а й л а

І тройчы адмаўляўся?

Д а м а ш

Толькі двойчы.
Ад Перуна і ўсіх нашых багоў
І ад цябе, вялікі князь Ягайла.

Я г а й л а

А верным толькі Кейстуту застаўся?

Д а м а ш

Дадай яшчэ Альгерда, свайго бацьку,
І Гедыміна — дзеда, пры якіх
Наш край ажыў, аддыхаўся ад войнаў
І перайшоў к табе адбудаваным
І Кейстутам таксама, тваім дзядзькам.

Я г а й л а

Які напад зрабіў у Вільні на мяне,
Пазбавіў волі, княскага пасада
І ў Віцебск адаслаў, як у турму!
Яму вы прысягалі — даравеў я!
Прадалі, як Хрыста, і я забыўся!

Д а м а ш

Пераҗагнайся, князь! Што ты гаворыш?
Не можа быць народзе наш Іудам,
Дый ты ўжо не раўняй сябе з Хрыстом.

Я г а й л а

Даруй мне, Божа!

Д а м а ш

Ён табе даруе.
Даруе, як і тое даравáў,
Што Кейстута і Вітаўта хацеў ты,
У Вільню заманіўшы, атруціць!
І крыжакам даваў пісьмова клятву,
Што востры крыж тэўтонскі залунае
Ад Вільні аж да Тураўскага княства!
Вялікі князь! Ды як жа свой пасад
Пад ногі падсцілаць паўночнаму суседу?

Я г а й л а

І хто ж табе такога вось наплёў?
Вітаўт ці Кейстут?

Д а м а ш

Я пячатку бачыў,
Віцязь без твару, меч і тоўсты шчыт
І подпіс: «Вільня, крыж, потым Ягайла»
Пастаўлены пад тым, што я сказаў.
Калі пячатка гэта не твая —
Ягайлу прысягну жыццём і Богам.

Я г а й л а

Жыццём не трэба. Каго з блізкіх маеш?

Д а м а ш

Дзяцей і жонку. Маці і дзядоў.

Я г а й л а

І дзе ж яны?

Д а м а ш

Усіх адправіў ў Полацк.

Я г а й л а

Дык а чаму ж тады не з'ехаў сам?!
Застаўся, каб у вочы плюнуць князю?

Д а м а ш

Не злодзей я! Навошта мне ўцякаць?

Я г а й л а

Уцякаць не хочаш. Прысягаць не мусіш.

Д а м а ш

Хрысту сілком прысягу не даюць.
А я даваў, бо князь Альгерд прымусіў!
Пасля прымусам прысягаў табе!

Я г а й л а

Чаму ж прымусам?

Д а м а ш

Ці ты старшы ў родзе,
Каб сесці на Літоўскі наш пасад?

Я г а й л а

Так князь Альгерд жадаў!

Д а м а ш

Па просьбе жонкі
Ён перад смерцю здаў табе пасад.
Усім вядома: кволых дзетак любіць
Сапраўдная жанчына.

Я г а й л а

Гэта мне
Усё гаворыш ты і не баішся?

Д а м а ш

Абрыдла ўсё жыццё баяцца праўды,
Няпраўдзе ж прысягаць і дагаджаць.

Я г а й л а

Няпраўда — гэта я?

Д а м а ш

Ты так гаворыш.
Ты, князь, прывёў тэўтонцаў да Літвы,
Яны для нас — паўночныя татары!
Ты ў княстве хочаш быць уладаром,
А перад імі поўзаць на каленях.
Маскоўскі князь так робіць прад Ардой,
А нам нашто?

Я г а й л а

Даволі, зразумеў я!
Ты думаеш, што княствам кіраваць
Гэтак жа лёгка, як ціхмянай жонкай?
Тут трэба хітраваць і быць вужакай,
Падумаўшы адно — сказаць другое,
А ўрэшце нешта трэцяе зрабіць.

Д а м а ш

Ёсць «так» і «не», астатняе — ад д'ябла.

Я г а й л а

Не паважаць сумленнасць немагчыма,
Тут можна нават дзёрзкасць дараваць.
Не хочаш прысягаць, то і не трэба,
Хай будзе Бог суддзёй табе і мне.
У кожнага ад Бога свой пасад.
Пі княскае віно. Гэй, дзе ты, Люцень!

Уваходзіць Л ю ц е н ь.

Налі віна баярыну.

Д а м а ш

Эх, княжа,
Калі ты атруціць мяне сабраўся,
Атруту вып'ю сам. І без віна.

З'яўляюцца К у п а л а і б е р а ж н і ц ы.

К у п а л а

Жыцця пачатак — першы крок да смерці,
А смерць — акно у новае жыццё.
Жыццё адно жыццё толькі разбурыць,
І смерць заўсёды разбурае смерць.

Б е р а ж н і ц ы *(танцуюць каля Дамаша)*

Не бойся, віцязь, мы цябе сустрэнем,
Аблашчым, супакоім, зберажом,
Тут гэтак, як і ў вас, спяваюць птушкі,
Сады квітнеюць і цурчыць ручай...
І зорнае святло з усіх бакоў
Тваю душу ласкава абагрэе.

Я г а й л а

Чаму ж ты князя лютым зверам лічыш?
Клянуся бацькам, не крануць цябе
Ні меч, і ні страла, і ні атрута,
Пакуль я князь. Вось табе чара. Пі!
*(Падае яму залатую чару.)*

Д а м а ш

Я, князь, бяды табе не пажадаю...
*(П'е.)*

юцень накідвае яму ззаду на шыю засморгу і душыць. Дамаш асядае долу.

Я г а й л а

Ты хто, халуй?! Яму ж я кляўся бацькам!

Л ю ц е н ь

Вялікі князь і не парушыў слова,
Ні яд, ні меч яго не закрануў.

Я г а й л а

Прэч, ваўкалак!

Л ю ц е н ь

Як скажаш, любы княжа.

Разыходзяцца.

Б е р а ж н і ц ы

Цябе любоў сустрэне, мілы віцязь,
Пяшчотны пацалунак любай маці
І постаці сівых тваіх дзядоў...

Купала

Замкнёны круг. Ты да сябе прыйшоў.

Беражніцы танцуюць над нерухомым целам Дамаша.

## Сцэна чацвёртая

Кракаў. Сад перад каралеўскім палацам. Уваходзяць прынцэса Ядвіга і прынц Вільгельм.

Ядвіга

Паслухай, прынц... То ў каралеўскім садзе
Сірэнкі зараз ціха запяялі,
Ў іх галасах — і радасць і журба,
А песня іх вяшчуе нам каханне
Ці загучыць, калі прыходзіць смерць.
Ты чуеш?

Вільгельм

Не. Пачуць зусім не здольны
Нічога я. Пакуль гаворыш ты.

Ядвіга

Я памаўчу.

Вільгельм

О не, мая прынцэса!
Твой цёплы голас так мне лашчыць слых
І у душу такі спакой прыносіць,
Што мне здаецца: я яшчэ дзіця,
І на руках ляжу у любай маці,
І веру, што ніколі не памру,
Што свет наўкола добры і ласкавы,
Мяне ўсе любяць. Я усіх люблю,
Ніхто мяне ніколі не пакрыўдзіць.

Ядвіга

О, прынц! Ты сапраўды яшчэ дзіця,
Хоць і старэйшы за мяне гадамі.

Вільгельм

Я буду табе мужам, але ты
Сястрой і добрай маці мусіш быці
Для ўсіх вяльмож Аўстрыйскага двара.
Кроў прынцаў — кроў халодная заўсёды,
Наш шлюб без нашых сэрцаў і душы,
І згоды заключаюць у палацах,
У неба не пытаюцца. За што ж
Так Бог мяне узнагародзіў,

Падараваўшы тую, што вышэй
Дзяржавы і кароны...

Я д в і г а

Зноў спяваюць!
Ты чуеш, прынц?

В і л ь г е л ь м

Не, я, на жаль, не чую.

Я д в і г а

Сірэнкі зноў журботна заспявалі.

В і л ь г е л ь м

Яны вітаць маё каханне рады.

Я д в і г а

Ці смерць старога бацькі-караля...

Уваходзяць А р ц ы б і с к у п і б і с к у п А л я с н і ц к і.

А р ц ы б і с к у п

Дзіця маё, кароль вас зараз кліча.

Я д в і г а

Я дзякую.

В і л ь г е л ь м

Праводзіць мушу вас.

А л я с н і ц к і

Вас, прынц, я папрасіў бы тут застацца.

Я д в і г а выходзіць.

А р ц ы б і с к у п. Сын мой, не будзем ад вас утойваць — Карона страціла свайго гаспадара.

В і л ь г е л ь м. Кароль Людвік памёр?!

А л я с н і ц к і. Калі ўзыдзе сонца, на Польшчу апусціцца ноч. Раніцай мы асірацеем.

А р ц ы б і с к у п. Кароль жыве апошнія часіны.

В і л ь г е л ь м. Не ў лепшы час прыехаў я прасіць рукі Ядвігі...

А р ц ы б і с к у п. За горам прыйдуць лепшыя часы, як за святлом заўжды прыходзіць цемра.

В і л ь г е л ь м. Не, лепш наадварот.

А р ц ы б і с к у п. Усё адно: калі святло зменіцца цемрай, значыць, цемра саступіць святлу. Пачатку тут няма. Ёсць толькі кола. *(Выходзіць.)*

А л я с н і ц к і. Прынц, вам лепш цяпер пакінуць Кракаў. Заручыны не робяць пры жальбе. Калі ў Польшчы высахнуць слёзы, яна будзе радасна спяваць на вяселлі сваёй дачкі Ядвігі і новага сына Вільгельма.

В і л ь г е л ь м. Дзякую, ваша вялебнасць. Дазвольце развітацца з прынцэсай.

Алясніцкі. Яе паклікаў развітацца бацька-кароль на незлічона большы тэрмін, чым збіраецеся развітацца вы. Ці варта ім замінаць?

Вільгельм. Кракаў нездарма ганарыцца мудрасцю вашай. Я ад'язджаю.

Алясніцкі. Перадайце каралю аўстрыйскаму, што Польшча заўсёды была яго сястрой, а пасля вашага шлюбу з прынцэсай Ядвігай будзе сястрой крэўнай.

Вільгельм. Дзякую, ваша вялебнасць.

Алясніцкі. Я перадам прынцэсе, што вы па дарозе ў каралеўства Аўстрыйскае, але ваша сэрца адмовілася ехаць з вамі.

Вільгельм. Лепш можа сказаць толькі Пан Бог.

Алясніцкі

Хай Ён і бласлаўляе вас. Бывайце.

Прынц кланяецца і выходзіць.

На жаль, кароль нашчадкаў не пакінуў,
Хто заўтра будзе ў Польшчы каралём?
Хто павядзе цябе, мая Айчына,
Да непрадбачных будучых гадоў?
Жанчына — маці і жыцця пачатак,
А тут цяжкі дзяржаўны карабель.
Сярод Еўропы, дзе вятры і буры,
Штурвал рукой жаночай не ўтрымаць.

Уваходзіць Арцыбіскуп.

Арцыбіскуп

Няшчасце!

Алясніцкі

Што? Кароль прадстаў прад Богам?

Арцыбіскуп

Каб так было, то гэта быў бы смутак
І клопат наш: каму аддаць дзяржаву,
А так ён сам карону перадаў!

Алясніцкі

Не можа быць! Каму? Няўжо Марылі?
Ці каралеве-маці?

Арцыбіскуп

Не, не ім!
Ён абвясціў Ядвігу каралевай.
Малодшую з дачок.

Алясніцкі

Ну, гэта, можа,
Зрабіў у непрытомнасці кароль,
І над уладаром хвароба уладарыць.

Аддаць дзяўчынцы Польшчу?! Гэта ўсё
Вар'яцтвам хваравітым мне здаецца...

Арцыбіскуп

Панам сказаць такое паспрабуйце
Ці чэлядзі. Адразу ж будзе бунт!
Ён вывеў сам Ядвігу на балкон
І голасам прамовіў уладарным:
«Мне Бог сказаў: вось ваша каралева!»

Алясніцкі

Сам выйшаў на балкон?!
Прыкуты ж быў да ложка!
Не першы месяц. Тут без дзіўнай сілы
Не абышлося.

Арцыбіскуп

Д'ябал або Бог
Тут прымяшаўся, нам не гэта важна,
А тое, што Ядвіга — каралева!
А той, хто хутка возьме з ёю шлюб,
Наш будучы кароль і гаспадар!
Не для таго я ўсё жыццё пражыў,
Каб знішчыць Польшчу і зрабіць Карону
Наймічкай у Аўстрыйскага двара.
Вільгельм, як стане польскім каралём,
То Польшчу зробіць Аўстрыяй, бясспрэчна.

Алясніцкі. Хто ў Польшчы можа стаць мужам для Ядвігі?

Арцыбіскуп. Для прынцэсы Ядвігі жаніхоў багата, для Ядвігі-каралевы іх няма! Але ў Аўстрыі іх няма таксама! Шлюб Вільгельма і Ядвігі я не благаслаўлю!

Алясніцкі. Дзе ж выйсце?

Арцыбіскуп. У Літве. Трэба неадкладна накіраваць у Вільню паслоў... Прапанаваць вялікаму князю Ягайлу прыняць нашу веру, пасля руку каралевы Ядвігі і польскую карону.

Алясніцкі. Тое, што чуюць мае вушы, не можа ўспрыняць мой розум. Ягайлу ў каталікі? Кудлатага пушчанскага зубра ў жаніхі высакароднай, вытанчанай Ядвізе? Дзікуна на каралеўскі пасад?

Арцыбіскуп. Лепш з аднаго дзікуна зрабіць караля-паляка, чым усіх палякаў зрабіць шляхетнымі аўстрыякамі.

Алясніцкі. На Захадзе розум, а на Усходзе ці звычаі дзікунскія, ці страсці. Дык што ж мы выбіраем?

Арцыбіскуп

Скарыць заўжды любую страсць магчыма,
А розуму заўжды скарышся сам,
Паслоў рыхтуйце, едзьце у Літву.

А л я с н і ц к і

А што нам скажа каралева-маці?

А р ц ы б і с к у п

Што Польшчы трэба будзе, тое й скажа.

Уваходзіць п р ы д в о р н ы.

П р ы д в о р н ы

Кароль памёр!

А р ц ы б і с к у п

Вітаем каралеву!

Б'юць гарматы. Усе выходзяць.

## Сцэна пятая

Лес перад замкам у Троках. Уваходзяць В і т а ў т, К у д а ш і р а т н і к і.

К у д а ш

Забегалі па сценах, як мурашкі...
Князь, мы давай падыдзем да варот,
І ты скажы: «Я князь вялікі Вітаўт»
І загадай вароты адчыніць.
Як міралюбца ты паўсюль вядомы,
Народ адчыніць замак прад табой
І здасць табе нягодніка Ягайлу.

В і т а ў т

Ці не занадта часта ён здае
Сваіх гаспадароў без бою і без жалю?

К у д а ш

Такі народ... Ён жыў пад бізуном
Усе часы. Ты толькі лясні пугай,
І ён ужо гатовы прысягаць,
Мяняць, здавацца, каяцца і плакаць.
Я сам такі...

В і т а ў т

Вось гэта праўдай будзе.
Хто там ідзе праз лес? Сюды паклічце.

К у д а ш

Гэй, чалавек! Хадзі сюды! Князь кліча!

З'яўляецца Р а м е с н і к. Праходзіць міма.

Ты з замка? Стой! Куды ты? Во дзівак!
Зірні: тут князь, вялікі Вітаўт.

Рамеснік

Мне ўсё адно, няхай хоць сам архангел,
Абрыдлі ўсе! Згары ваша радня!
Век між сабой грызецеся, сабакі,
Каб некаму на сучку першым скочыць?

Кудаш

Ах ты, халоп смярдзючы!
*(Б'е Рамесніка.)*

Рамеснік

Бі мацней!
Сячы наводмаш хоць мячом, хоць пугай,
А хочаш, дык і грудзі разарві,
І сэрца у зубах дастань для князя!
Мне ўжо нічога больш не забаліць.

Вітаўт

Пакінь яго! Што ж у цябе за гора,
Што нават сэрца болей не баліць?

Рамеснік

Прыйшоў твой бацька Кейстут і Ягайлу
Абвінаваціў у страшэннай здрадзе:
Як быццам ён хацеў цябе забіць
І княжыць у Літве аднаасобна.
Мой сын пайшоў да вас тады на службу,
І тут вярнуўся з Віцебска Ягайла,
У акружэнні белых крыжакоў.
І хуткі суд пачаўся. Майго сына
Павесілі за рэбры на крукі,
На востры кол унука пасадзілі,
Два дні малую ўнучку мардавала
На загуменні княская гайня
За здраду бацькаву! Каму ж, каму ён здрадзіў?!
Хіба служыў не княству, не Літве,
Не роду Гедыміна? Адкажы,
Вялікі Вітаўт, простаму ліцвіну!

Вітаўт

Ён у гарачцы, дай яму віна.

Кудаш

Трымай, зямляк...

Рамеснік

Пі сам сваё віно.
Я смагу наталіў крывёй сваіх унукаў.
*(Выходзіць.)*

Ратнікі

Ягайлу трэба будзе разлічыцца!
Вядзі нас, князь! Смерць вылюдкам! Пайшлі!

В і т а ў т

Усім маўчаць! Хто да крыві ахвочы
Ці хоча помсціць дзецям за бацькоў,
Няхай ідзе на службу да Арды,
Да крымскіх ханаў, злодзеем у лес!
У княстве месца для такіх не будзе!
Ну, а каму Хрыста святыя вочы
Глядзяць у сэрца, гэтыя за мной.
*(Дастае з похваў княскі меч і ўтыкае яго ў зямлю. Дастае з похваў кінжал і ўтыкае яго ў зямлю.)*

Кудаш і ратнікі робяць тое ж.

Са зброяй больш надзейнай, чым булат,
Іду я на цябе, Ягайла,— крэўны брат!

Усе накіроўваюцца да замка.

## Сцэна шостая

Трокі. Пакой у замку. Я г а й л а з чарай. Уваходзіць Л ю ц е н ь.

Я г а й л а

Што там за шум?

Л ю ц е н ь

Да князя надта рвецца
Магістр Ліхштэйн — тэўтонскі камандор.

Я г а й л а

Пакліч яго.

Уваходзіць К а м а н д о р.

Ўсіх рыцараў вітае
З удзячнасцю літоўская зямля!
Ваш меч нам дапамог усталяваць
Парушаную ў княстве справядлівасць
І узнавіць законную уладу.

К а м а н д о р

Я прыйшоў
Сказаць: пакінуць сёння Трокі
Ўсе рыцары. Вяртаемся дамоў.
Скажы адкрыць паўночныя вароты,
Праз іх і пройдзе Белы легіён.

Я г а й л а. І ты цяпер пакінуць хочаш Трокі? Цяпер, калі бунтарскія дружыны вядзе з-пад Полацка Кейстут, ■ з-пад Гародні Вітаўт?

К а м а н д о р. Вы — браты... Мы тут чужыя. Калі вы памірыцеся, ва ўсім вінаватыя будуць рыцары.

Я г а й л а. О, баязлівае племя!

К а м а н д о р. Князь! Я — рыцар! І абразы змываю крывёй. Або сваёй, або крыўдзіцеля. Ці не прасіў я цябе пасля таго, як мы здабылі Вільню і Трокі, не дапускаць гвалту і рабункаў над тымі, хто служыў Кейстуту? Ты абяцаў?

Я г а й л а. Абяцаў.

К а м а н д о р. Ці не прасіў я цябе, калі гвалт пачаўся, прылюдна павесіць гвалтаўнікоў, нават калі яны табе браты родныя? Ты абяцаў?

Я г а й л а. Абяцаў.

К а м а н д о р. Зірні, што робіцца і ў Вільні, і ў Троках. Рэжуць сівых дзядоў, гвалтуюць дзяўчатак, малых на колле саджаюць! Учора дзесяць тваіх ратнікаў забаўляліся з цяжарнай кабетай. На вачах ва ўсіх! Тая выхапіла нож і з праклёнам, табе, князь, табе, прапарола сваё запаскуджанае лона! Ты верыш, што гэты праклён не даляціць да вушэй Бога? Ён ужо даляцеў. Сёння ўначы зарэзаны адзін з маіх рыцараў. Просты люд лічыць, што ва ўсім вінаватыя мы, бо мы — чужынцы. Як жа вы так адзін з адным абыходзіцеся, браты?

Я г а й л а. Наш народ здрады не даруе.

К а м а н д о р. А калі вернецца Кейстут, будуць рэзаць тых, хто служыў табе?

Я г а й л а. Будуць.

К а м а н д о р. І таксама за здраду?

Я г а й л а. І таксама за здраду.

К а м а н д о р. Адчыняй вароты. Рыцары пойдуць. Зразумей, князь, просты люд павінен слухаць гаспадара, кім бы ён ні быў. І гэта яго вартасць, а не загана. За гэта трэба хваліць, а не забіваць! Помста — зброя слабых.

Я г а й л а. У цяжкі час ты пакідаеш мяне, Камандор.

К а м а н д о р. Ордэн абяцаў дапамагчы вярнуць табе пасад. Пасад вярнулі. Ордэн не абяцаў быць стражнікам у вялікага князя. Хай твае ратнікі выкажуць мужнасць у бойцы з тваім ворагам. А не з дзявочымі спадніцамі... Загадай адчыніць вароты.

Я г а й л а

Гэй, Люцень!

Уваходзіць Л ю ц е н ь.

Вароты для тэўтонцаў адчыніць!

Л ю ц е н ь. Як? Адчыніць?

Я г а й л а

Хай ціха адыходзяць.

Л ю ц е н ь *(крычыць)*

Вароты для тэўтонцаў адчыніць!

К а м а н д о р

Спрыяе князю хай магутны Божа!
Бывай.

Я г а й л а

Бывай. Бывай і дзякуй
За ўсё, што ты зрабіў і не зрабіў.
Ніхто не давядзе свой дом да ладу,
Калі ты сам яго не давядзеш.

К а м а н д о р выходзіць.

Люцень!

Л ю ц е н ь. Слухаю князя!

Я г а й л а. Усіх, хто з сённяшняга ранку будзе заўважаны ў рабунках, гвалтах ці забойствах,— імем вялікага князя Ягайлы вешаць! П'яных ратнікаў секчы бізуном! Усім, хто прысягаў Кейстуту,— даруваць! Нарабаванае — вярнуць. Хто там напаскудзіў з цяжарнай?

Л ю ц е н ь. Адзін з сотнікаў.

Я г а й л а. Імя!

Л ю ц е н ь. Рабыд. З ім яшчэ некалькі ратнікаў...

Я г а й л а. Самому сотніку і двум ратнікам галовы адсекчы і прыбіць над варотамі.

Л ю ц е н ь. Хай князь даруе, але гэта лепшая сотня ў князя.

Я г а й л а. Калі я паўтару яшчэ раз, і твая галава будзе над варотамі! Жанчына зарэзалася?

Л ю ц е н ь. Зарэзалася.

Я г а й л а. Абвясціць люду, што пакаранне за яе. Пайшоў!

Л ю ц е н ь выходзіць. Чуваць шум і спалоханыя выкрыкі: «Вітаўт! Вітаўт!»
Л ю ц е н ь вяртаецца.

Л ю ц е н ь

Секчы галовы ўжо няма патрэбы,
Яны і ў бітве з плеч далоў зляцяць,
Падходзіць Вітаўт!

Я г а й л а

Вось і ўсё, здаецца,
Без рыцараў зубра нам не стрымаць.

Уваходзіць Л у ч н і к.

Л у ч н і к

Хай князь даруе. Першы раз такое
Я дзіва бачу. Без мячоў ідуць

І пешкі цераз поле напрасткі,
А дроцікі, мячы, нажы і коп'і,
Як голы лес, паўстаў здалёк сцяной,
І коні засталіся за спіной.

Л ю ц е н ь

Я адчуваю: хітрасць Вітаўт ладзіць.
Гэй, лучнікі! Са сценаў дружны залп!
Хай ведаюць, што мы не паддадзімся!

Паляцелі стрэлы.

Ну, што цяпер?

Л у ч н і к

Ідуць, як і ішлі,
З-пад ног паднялі стрэлы нашы. Ломяць.

Л ю ц е н ь

Прыгатаваліся!

Я г а й л а

Нікому не страляць!
Адкрыць вароты! Ўсім стаяць на месцы.

Л ю ц е н ь

Князю, мы здамо сябе на міласць?
Другі раз на няславу і на ганьбу?
Сабе ты здрадзіў, я табе не здраджу!
Хай гэта кожны будзе ў княстве знаць!
*(Страляе з арбалета.)*

Ягайла выхапіў меч і б'е плашмя Люценя.

Я г а й л а

Сказаў жа ўсім: нікому не страляць!

Уваходзіць В і т а ў т са сваім атрадам.

В і т а ў т. Ты вольны забіць мяне адразу і вольны выслухаць.

Я г а й л а. Гавары.

В і т а ў т. Калі тое, што я скажу, не кране твайго сэрца, ты павінен будзеш мяне забіць. Калі ты не зробіш гэтага, некалі цябе заб'ю я, брат мой. Калі ж словы мае душа твая прыме, ты пойдзеш у поле і прынясеш мне мой меч! Бо я першы раз і воляй вольнаю ўваткнуў яго ў зямлю.

Я г а й л а. Гавары.

В і т а ў т. З часоў сівога Рагвалода і пакутнай Рагнеды не ведаем ні шчасця, ні спакою. Нашы жонкі нараджаюць для смерці і пакут! Зірні наўкола: гэта не балоты дыхаюць пад нашымі нагамі — гэта зямля набрыняла крывёй ліцвінаў і продкаў іх. Хто

нас пракляў і за што? Там туркі, там татары, там тэўтонцы, там маскавіты, там Польшча. З нашых целаў і з нашых душ зрабілі рысталішча, дзе цкуюць адзін аднаго! Мы абязлюдзелі, сцяклі крывёй, наш гонар, наша годнасць пад конскімі капытамі чужынцаў. Ліцвін-дзіцёнак крычыць, выходзячы з жаночага лона, бо адчувае, што нарадзіўся для пакут, прыніжэння і здзекаў! Князь Ягайла! Прыйдуць часы, калі прыгожыя ліцвінкі згубяць здольнасць насіць жыццё пад сэрцам. Наша семя змярцвее! Ты гэтага хочаш?

Ягайла. Гэтага я не хачу...

Вітаўт

Чаму ж ты сёння памагаты тым,
Хто выкрасліць з жыцця ліцвінаў хоча?
Ты меч падняў. І ты пачаў вайну.
І з кім? З сабой. Бо ты ўнук Гедымінаў,
Як Кейстут і Альгерд. Як я і як яны!
Што ж сёння? Брат гатовы рэзаць брата!
Татары мала рэзалі, дык мы
Паможам ім народ свой перарэзаць?

Ягайла

Паўстаў абараніць я свой пасад,
Што Кейстут захапіў гвалтоўна і знянацку!

Вітаўт

Дадай: калі ты змову вёў супроць
Дзядзькі і брата з ордэнам Тэўтонскім!
Ты абяцаў абодвух нас забіць,
З тэўтонцамі зрабіць адну дзяржаву
І паўнаўладна ёю кіраваць.

Ягайла

Ты ж ведаеш, што я пісаў няпраўду!
Хто шчыры у палітыцы, дык той
Што немаўля і кіраваць няздольны
Ні княствам, ані войскам, ні людзьмі!

Вітаўт

Сказаць усё раней было б патрэбна,
Адразу, калі гэта напісаў!
І я б паверыў, зразумеў бы й Кейстут.

Ягайла

На жаль, сказаць я гэта не паспеў,
Вы разам з бацькам захапілі Вільню.

Вітаўт

Ну, а цяпер ты захапіў яе...
А заўтра Кейстут зноў яе здабудзе!
Кроў, кроў і кроў! І вось табе: прыходзь,

Хоць рыцар, хоць татарын, і утульна
Садзіся на скрываўлены пасад!
З прыдуркаў жа ліцвінаў пацяшайся,
Яны ў сябе табе адваявалі
Прастору і уладу. Так ці не?

Я г а й л а

Няпраўду, Вітаўт, ты казаць няздольны.

В і т а ў т

Калі так лічыш — прынясі мой меч.

Я г а й л а

Вось мой бяры, хай твой зямля трымае,
Як горкі напамін, ад брата брату,
Каб не губляў братэрскую любоў.
*(Аддае меч.)*

Вітаўт прымае.

К у д а ш

Вялікія князі! А што рабіць падданым?
Нашы мячы таксама у зямлі!
Яны заўжды рыжэлі ад крыві
Літвы і княства ворагаў заклятых,
А вось цяпер зрыжэюць ад расы!

Л у ч н і к

Вось мой бяры. Я твой знайду у полі.

Ратнікі Ягайлы з паклонам аддаюць мячы ратнікам Вітаўта. Абдымаюцца.

Я г а й л а

Ўсе ў Вільню! Змацаваць спакой і мір
Віном патрэбна! Ўсіх завём на пір!

Л ю ц е н ь

Мір — гэта час, калі ўсе точаць зубы
Для новай бойкі і для новай згубы.

Трубяць у рог. Усе разыходзяцца.

## Сцэна сёмая

Крэва. Стан дружын Кейстута. Уваходзяць К е й с т у т і А м у л і ч.

А м у л і ч

Вялікі князь,— ганцы.

К е й с т у т

Адкуль?

А м у л і ч

Прыслаў Ягайла.

К е й с т у т

Ягайла? Да мяне?
Ганцоў? Што ён уздумаў?
Меч і страла ганцы яму цяпер.
І ўсё ж пакліч.

А м у л і ч

Заходзьце, князь чакае!

Уваходзіць Л ю ц е н ь.

Л ю ц е н ь. Вялікі князь Ягайла вітае вялікага князя Кейстута, жадаючы свайму дзядзьку здароўя і славы!

К е й с т у т. У княстве салаўі ўжо не спяваюць.

Л ю ц е н ь. Даруй, князь, я кажу чужыя словы.

К е й с т у т. Чые?

Л ю ц е н ь. Князя Ягайлы.

К е й с т у т. Ён успомніў, што мы родзічы?

Л ю ц е н ь. Разам з князем Ягайлам цябе вітае твой сын — вялікі князь Вітаўт.

К е й с т у т. Дзе Вітаўт?

Л ю ц е н ь. Пакуль ты вядзеш у Вільню ратнікаў, яны ў Вільні п'юць віно: Ягайла з мядзянай чары, Вітаўт са срэбнай, а залатая чакае цябе.

К е й с т у т. Брэшаш!

Л ю ц е н ь. Не. Кажу чужыя словы: залатая чара чакае цябе! У княстве — мір. Перад Вітаўтам адчыніліся вароты Трокаў, і Ягайла аддаў яму свой меч. Ратнікі абодвух князёў змагаюцца з бочкамі і падаюць п'янымі адзін на аднаго, як пры лютай сечы... Калі ты прывядзеш сваіх, у Вільні не хопіць віна...

К е й с т у т. Што гэта? Варажба? Ці Боскі цуд? Вітаўт змог адзін узяць Трокі?

Л ю ц е н ь. І Вільня адчыніла перад ім свае вароты.

К е й с т у т. Ягайла здаўся на міласць?

Л ю ц е н ь. Ягайла аддаў свой меч.

К е й с т у т. Іх ратнікі піруюць разам?

Л ю ц е н ь. О, гэта раней былі ратнікі Ягайлы і Вітаўта, а цяпер гэта войска п'янтосаў.

К е й с т у т. Падман!

Л ю ц е н ь. Вось грамата ад сына. Руку і пячатку Вітаўта князь, спадзяюся, ведае. *(Падае грамату.)*

Кейстут чытае.

К е й с т у т. Паверыць не магу.

Л ю ц е н ь. Калі не верыш мне, што зразумела, не верыш вачам сваім, што зразумела менш, можа, паверыш вушам і вачам адначасова?

Уваходзіць К у д а ш.

К у д а ш

Я рады, што вітаю бацьку-князя!

К е й с т у т

Дзе Вітаўт? Неадкладна адкажы!

К у д а ш

Калі я ад'язджаў, то быў забіты!

К е й с т у т

Забіты?

К у д а ш

Так. Зарэзаны віном,
Ляжаў, як сноп. Вось так. Са срэбнай чарай,
Абліты, як крывёй, густым напоем.
І нават не стагнаў, а толькі хроп.
Ягайла той і ўвогуле не можа
Аджыць. І толькі п'е расол.
Калі вайна заўжды такою будзе,
Я ўсё жыццё гатовы ваяваць.

К е й с т у т

Аддаў Ягайла меч?

К у д а ш

Аддаў, вядома.
І нават мне свой нехта перадаў
З паклонам. Я ж згубіў па п'янцы недзе.

К е й с т у т *(перачытвае грамату)*. «Адсылай назад полацкае войска, бо ўжо няма ў ім патрэбы. Чакаю цябе ў Вільні. Вялікае княства жадае, каб ім кіравалі супольна. Хай будзе мір для ўсіх ліцвінаў! Вітаўт». Рыгор!

Уваходзіць А м у л і ч.

Ад майго імя загадай ваяводам, каб здымалі лагер і вярталі войскі. Скажы, што полацкія ратнікі перамаглі Вільню пад Крэвам, не падымаючы мячоў. У княстве — мір.

А м у л і ч. Дзякуй табе, Божа! *(Выходзіць.)*

К е й с т у т. Ну, а добрым вешчунам — добрага віна!

К у д а ш. Эх, ваяваць дык ваяваць!

Л ю ц е н ь. Вялікая падзяка князю, толькі я павінен скакаць у Вільню, каб не адзін вялікі князь быў з добрай весткай.

К е й с т у т. Ад чаркі весялей паскача конь.

П'юць віно.

А што робяць тэўтонцы ў Вільні?

К у д а ш. Не ведаю, бо з імі я не піў. Лучнікі казалі, што яны адмовіліся браць удзел у бойцы і збеглі праз паўночныя вароты.

К е й с т у т. Значыць, Ягайла застаўся адзін без падтрымкі Ордэна?

К у д а ш. Выходзіць так.

К е й с т у т. І толькі пасля гэтага аддаў свой меч Вітаўту?

К у д а ш. Выходзіць так. Мы ўваткнулі свае мячы ў зямлю на вачах ва ўсіх і падышлі да Трокаў, не зважаючы на стрэлы.

К е й с т у т

А хто вам загадаў прыехаць да мяне,
Прасіць, каб з Крэва войска павярнула?

К у д а ш

Прасіў Ягайла, Вітаўт — загадаў.

К е й с т у т

Усё зразумела! Дагані слугу.
Скажы, што я загад свой адмяняю!
У Вільню пойдзе войска!

Л ю ц е н ь

Не, не пойдзе.

К у д а ш

Ты што, здурэў? Пярэчыць будзеш князю?

Л ю ц е н ь

Загад, мой князь, не трэба адмяняць!
*(Забівае мячом Кудаша.)*

К у д а ш

Тут здрада! Князь, хутчэй... хутчэй ратуйся!
*(Падае мёртвым.)*

К е й с т у т

Вось, Вітаўт! Вось твая спагада
І дабрыня. Вужака, ты памрэш
Ад гнеўнае рукі старога князя!
*(Б'ецца з Люценем.)*

Люцень выбівае ў Кейстута меч.

Л ю ц е н ь

Рукой старэчай, княжа, трэба гладзіць
Свае даўно сівыя валасы.
Мячамі ж хай махаюць маладыя!

К е й с т у т

Кроў бацькава, мой сыне, на табе!

Л ю ц е н ь

Крыві баішся? Дык яе не будзе!
Хай Вітаўт твой заўжды спакойна спіць.
*(Накідвае на шыю Кейстуту засмаргу і душыць.)*

К е й с т у т

Рыгор, сюды! На дапамогу князю!
*(Памірае.)*

Л ю ц е н ь

Слуга аддасць загад і прыйдзе у пару,
Каб у нябыт пайсці служыць гаспадару.

З'яўляюцца К у п а л а і б е р а ж н і ц ы.

К у п а л а

Хто ад сябе смяротную стралу
Адпусціць у другога чалавека —
Той сваім сэрцам стрэне яе сам,
Калі мінулым стануць цьмяныя стагоддзі
І ўсе забудуць бойкі, сваркі, звадкі,
Ўвап'ецца ў сэрца здзіўленых нашчадкаў.

Б е р а ж н і ц ы *(спяваюць)*

Устань і пойдзем з намі. Ты не князь,
Не дзед, не бацька і не мужны віцязь.
Зямля, якой служыў, аддаўшы сілы,
Цябе да нас нарэшце адпусціла.
*(Танцуюць над нерухомым целам Кейстута.)*

## Сцэна восьмая

Вільня. Двор замка. Р а т н і к і балююць. Уваходзяць В і т а ў т і Я г а й л а.

В і т а ў т

Павер, мне ўсё адно, хто з нас вялікі князь,
Было б адно: мір у Вялікім княстве
І моц яго. Каб жыў наш родны край,
Квітнеў і рос для будучых нашчадкаў.

Я г а й л а

П'ю за тваё здароўе, добры брат!
Хай шмат мы для Айчыны нашай здзейснім.

П'юць.

В і т а ў т

Ганцы не прыбылі яшчэ з-пад Крэва?

Я г а й л а

Няма яшчэ. Павінны б прыскакаць,
Ці мо ўжо недзе ў Кейстута гуляюць?

Уваходзіць В а я в о д а.

В а я в о д а

Вялікі князь! Тут польскія паслы.

Я г а й л а

Каго з князёў вялікіх яны хочуць?
Мяне ці Вітаўта?

Ваявода

Сказалі, што цябе.

Вітаўт

Твой абавязак княствам кіраваць,
А я пайду з дружынай баляваць.
*(Выходзіць.)*

Уваходзяць Алясніцкі і паслы.

Алясніцкі. Каралеўскі сойм Польшчы вітае вялікага князя Ягайлу! Хай Пан Бог не пазбаўляе ласкі тваё княства.

Ягайла. Дзякую. Чаму ваша прывітанне толькі ад каралеўскага Сойма? Хіба кароль не вітае Вялікае княства Літоўскае?

Алясніцкі. Спадзяюся, што ён моліцца за яго, укленчыўшы перад самім Панам Богам.

Ягайла. Кароль Людвік памёр?!

Алясніцкі. Тры дні, як мы сіроты. Каралеўскі сойм упаўнаважыў нас зрабіць вялікаму князю прапанову.

Ягайла. Я слухаю.

Алясніцкі. Калі вялікі князь Ягайла прымае нашу веру...

Ягайла. Каб я... дый стаў католікам? Вось гэта прапанова!

Алясніцкі. Хай вялікі князь даслухае. Прыняўшы каталіцызм, вялікі князь Уладзіслаў...

Ягайла. Хто такі Уладзіслаў?

Алясніцкі. Гэта імя ў новым хрышчэнні вялікага князя Ягайлы. Прыняўшы новую веру, князь Уладзіслаў бярэ шлюб з дачкой караля Людвіка.

Ягайла. Я і так вялікі князь. Навошта мне яшчэ рабіцца прынцам?

Алясніцкі. Хай вялікі князь дазволіць мне скончыць. Польскім прынцам вялікі князь, на жаль, не зможа стаць. Кароль перад смерцю перадаў карону адной з дачок. Польшча мае каралеву, а той, хто стане мужам каралевы...

Ягайла. Кароль... І якая ж з дачок носіць карону? Марыля?

Алясніцкі. Ядвіга.

Ягайла. Малодшая?! Ядвіга?!

Алясніцкі

Так. Яна.

Ягайла

Нябёсаў залатых чароўнае стварэнне!
Я згодны! Тут уладу перадаць
Мне давядзецца брату або дзядзьку?

Алясніцкі

Як перадаць уладу? Князь, ты што?
Жаніх заўжды павінен быць з палацам.

Ну а нявеста мае свой пасаг.
Пасаг Ядвігі — Польская Карона,
А твой пасаг: Літва, Жамойць і Русь.
Як-небудзь тут з братамі разбярыся,
Мы ж адступнога жаніхам дамо.
А іх у каралевы... ой, багата!
Літва патрэбна Польшчы. Польшча — ёй.
Табе ж патрэбны Польшча і Літва
З чароўнаю Ядвігаю ў дадатак.
Прымай рашэнне зараз, бо чакаць
Не мае часу наша каралева.
Вільгельм, аўстрыйскі прынц, стаіць пасля цябе.

Я г а й л а

Калі у Кракаў мне патрэбна ехаць?

А л я с н і ц к і. Чым хутчэй, тым лепш. Там з нецярпеннем чакаюць жаніха Польскай Кароны. Прымі ад сваіх будучых падданых гэтыя сціплыя дарункі. Залаты пярсцёнак і залаты палаш.

Паслы з паклонам падносяць дарункі Ягайлу. Ягайла здымае з шыі амулет.

Я г а й л а. Перадайце польскай каралеве.

А л я с н і ц к і. Што гэта?

Я г а й л а. Зуб сівога пушчанскага зубра. Хай павесіць на шыю і не здымае нават у лазні.

А л я с н і ц к і. Каралева будзе надзвычай рада.

Я г а й л а. Зубра здабыў мой прадзед. Гэты зуб ратуе ад хвароб, адганяе нячысцікаў...

А л я с н і ц к і. О, літасцівы Божа!

Я г а й л а. ...Адводзіць пошасць і праклёны... Скажыце чароўнай Ядвісі, што я гатовы кінуць да яе ног і княства, і ўвесь свет, а аддаю пакуль самае дарагое, што маю. Вас адвядуць у лепшыя пакоі...

А л я с н і ц к і. Удзячны мы табе, вялікі князь, але тваю згоду чакае ўся Польшча, і мы павінны прывезці яе найхутчэй. Няхай жыве Вялікае княства Літоўскае!

Я г а й л а

Няхай жыве Польшча!

П а с л ы кланяюцца і выходзяць.

Я пазаўчора віцебскім быў вязнем,
А ўчора мог загінуць ад мяча.
І раптам сёння я жаніх Ядвігі,
А заўтра ў Польшчы уладар-кароль...
Я ведаю, што зоркі мне спрыяюць
І ўсе мяне навалы абмінуць.

Уваходзіць Ваявода.

Ваявода. Вялікі князь! Аднекуль з'явіўся паранены ратнік. Нож у грудзях тырчыць, дастаць не дае, шукае Вітаўта...

Лучнік і ратнікі прыводзяць скрываўленага Амуліча.

Амуліч. Вялікі князь! Скажы, дзе Вітаўт... Я даскакаў жывым яго пабачыць...

Ягайла

Адкуль ты?

Амуліч

З Крэва.

Ягайла

Дай дастану нож!

Амуліч

Не трэба. Ён душу ў грудзях трымае.
Дзе Вітаўт, адкажы, вялікі князь?

З'яўляецца Вітаўт.

Вітаўт

Хто мяне кліча?

Ягайла

Гэты мужны ратнік.
*(Вырывае з грудзей Амуліча нож.)*

Амуліч павіс на руках у Лучніка.

Вітаўт

Рыгор Амуліч? Бацькаў верны стражнік?
Найлепшы ён у Кейстута. Што з ім?

Ягайла

Не ведаю. Прасіўся да мяне,
Скрываўлены, вось нож з яго грудзей
Дастаў я, каб хутчэй перавязаць.

Вітаўт

Няма ўжо сэнсу. Зараз ён памрэ.
Нож не даваў крыві ракою ліцца.

Амуліч *(апрытомнеў)*

Ратуйся, Вітаўт! Каля Крэва бацька
Задушаны рукой яго слугі,
І верны твой Кудаш мячом забіты
Пасля таго, як войскі адаслаў
Назад у Полацк князь вялікі Кейстут,
Як ты прасіў у грамаце сваёй...
Даруй, што не збярог слуга старога князя...
*(Памірае.)*

Я г а й л а

Усё ён трызніць!

В і т а ў т

Гэта не трызненне.
Здаецца мне, што трызніў толькі я,
Калі пачвары гэтакай паверыў!
Дзе Люцень твой, паўзучая змяя?!

Я г а й л а

Ён звар'яцеў! Схапіць яго, дружына!

В і т а ў т

Смерць лютую хай схопіць найхутчэй
Усё тваё асінае гняздо!
*(Кідаецца з мячом на Ягайлу.)*

Лучнік становіцца паміж імі і прымае ўдар на сябе.

Л у ч н і к

Князі! Князі! Пакуль жывыя мы,
Хай брат не забівае свайго брата...
*(Памірае.)*

Вітаўт б'ецца з ратнікамі Ягайлы. На яго навальваюцца і адбіраюць меч.

Я г а й л а

Звязаць і патаемна звезці ў Крэва.
Ён захварэў.

В і т а ў т

Ты ж здохнеш без хвароб!
Дружына, да мяне!

Я г а й л а

Паслухай, Вітаўт...
Твой брат не вінаваты прад табой.

В і т а ў т

Ты брат змяі, што прагна паядае
Дзяцей сваіх, усіх, каго народзіць!

Я г а й л а

Калі загінуў князь вялікі Кейстут,
Хто ў гэтым вінаваты, той заплоціць.
Альгердам я клянуся, сваім бацькам!

В і т а ў т

Цябе ваўчыца некалі радзіла!
І бацька твой — пушчанскі люты воўк!

Я г а й л а

У Крэва! І трымайце пад аховай,
Нікога да яго не падпускаць!
Праз колькі дзён прыеду — разбяруся.

Што тут пачулі — зараз жа забыць!
Я б сам па мужным Кейстуту заплакаў,
Няма калі, мяне чакае Кракаў.

Звязанага В і т а ў т а выносяць. Усе разыходзяцца.

# АКТ ДРУГІ

## Сцэна першая

Гародня. Пакой у замку Вітаўта. А л ё н а расчэсвае к н я г і н і А н н е валасы.

А л ё н а *(спявае)*
Белая бяроза не цярэблена,
Суччайка, веццейка не падберана.
Хлопчыкі, малойчыкі, падцерабіце,
Суччайка, веццейка падбярыце,
А мая княгенечка не прыбрана,
Русая косачка не зачасана.
Дзевачкі, падружачкі, прыбярыце,
Русую косачку зачашыце.

К н я г і н я А н н а
Што праспявала зараз ты, Алёна?

А л ё н а
А гэту песню ў нашым родным краі
Пяюць, як прыбіраюць маладую.
Ёй косы расплятаюць, гладка чэшуць...

К н я г і н я А н н а
Адкуль ты родам?

А л ё н а
З Полацкага княства.
Наш князь маіх бацькоў вам падарыў.

К н я г і н я А н н а
А ў нас інакш спяваюць.

А л ё н а
Гэта праўда,
Колькі людзей, то й столькі галасоў,
Колькі мясцін, то й столькі добрых песень.

К н я г і н я А н н а
А вось паслухай, як у нас спяваюць.

А л ё н а
Спяваць княгіням не да твару, кажуць.

К н я г і н я А н н а *(спявае)*

Дзевушкі, мае падружкі,
Вазьміце мяне пад ручкі,
Пасадзіце мяне на дзяжу,
Чашыце маю галаву.
Ціхонька галоўку чашыце,
З русых кос валасоў не рвіце,
Ета, ой, косанька расчасоная,
Піўцом галава мачоная...

У вас чым косы мажуць маладой?

А л ё н а. Мёдам.

К н я г і н я А н н а. А ў нас півам.

А л ё н а. Півам?

К н я г і н я А н н а. Півам.

А л ё н а

Ну, мёдам, каб салодкая была.
А півам?

К н я г і н я А н н а

Каб сп'яняла целам мужа!

Смяюцца. З'яўляецца К у п а л а.

К у п а л а *(да Алёны)*

Твой сын, твой брат, твой бацька, твой каханы
Паранены і звязаны ляжыць
У Крэве і чакае паратунку.
Князёўну ў падарожжа прыгатуй,
Ратуй яго, ратуй яго, ратуй...

К н я г і н я А н н а

Алёна, што? Чаму ты ўся збялела?

А л ё н а

Я маю дар ад продкаў адчуваць
Хваробу і няшчасце чалавека
Мне блізкага. Хоць на краі зямлі
Няхай ён будзе, а калі бяда,
Яна у маім сэрцы адгукнецца.

К н я г і н я А н н а

Няўжо цяпер цябе здалёк гукае
Брат ці сястра? Ці маці?

А л ё н а

Муж твой — Вітаўт.
У Крэве ён паранены ляжыць,
Цябе й мяне чакае у цямніцы.

К н я г і н я А н н а

Князь Вітаўт у цямніцы? Смешна мне.
І чым жа блізкі ён табе, Алёна?

А л ё н а

Той, хто, як маці, любіць гаспадыню,
Не можа не любіць гаспадара.
Хутчэй у Крэва!

К н я г і н я А н н а

Вітаўт жа у Троках!

А л ё н а

Княгіня, я малю, мяне паслухай!
Не маніць аніколі сэрца мне.

К н я г і н я А н н а

Ну, добра, добра, заўтра мы паедзем.

А л ё н а

Не заўтра! Сёння! Як мага хутчэй!
Бо заўтра быць патрэбна нам у Крэве,
Каб князя для цябе уратаваць!

К н я г і н я А н н а

Мо ты й напраўду з роду ведуноў,
Бо я ўжо адчуваю хваляванне
І у грудзях халодны неспакой.

А л ё н а

Прывесці коні загадаю я!

К н я г і н я А н н а

Мы найхутчэй павінны быць у Крэве!

Выходзяць.

К у п а л а

Ў каханні сэрца дзівіць і вяшчуе,
А без яго не бачыць і не чуе.
*(Растварaецца ў прасторы.)*

## Сцэна другая

Кракаў. Касцёл. А р ц ы б і с к у п і Я г а й л а на каленях.

А р ц ы б і с к у п

Усё, сын мой, цяпер перахрысціся,
У новай веры — новы чалавек.

Ягайла хрысціцца па-каталіцку.

Я г а й л а

Нязвыкла... Адкажы, святы айцец,
Як Бог...

А р ц ы б і с к у п

Пан Бог.

Ягайла

Ну хай сабе і Пан!
Як Ён не ўсталяваў адзін парадак?
Адзін закон і веру для людзей?
Хрысту і Рым, і праваслаўе служаць,
І ўсё ж здаўна грызуцца між сабой.
Ад Захаду — антыхрысты на Ўсходзе,
А ад Масквы — вы ворагі Хрысту.

Арцыбіскуп

Не вы, а мы, мой сыне Ўладзіслаў,
Ад гэтых дзён і ты ужо каталік.
У праваслаўі, сын мой, больш паганства,
Чым веры хрысціянскай. Іх папы
На святароў языцкіх больш падобны,
На ведуноў, што служаць Перуну.

Ягайла

Тут папа, там папы, а дзе ж Ісус Хрыстос?
Да нашых душ Ён так і не прырос.

Арцыбіскуп

Ідзі! Цябе чакае каралева.

## Сцэна трэцяя

Кракаў. Каралеўскі палац. Алясніцкі і Ядвіга.

Алясніцкі

Дзіця маё, цябе абраў сам Бог —
Айчыну нашу, Польшчу узвялічыць.

Ядвіга

Святы айцец, каб нешта узвялічыць,
Няўжо сябе трэба стаптаць у бруд?
Вільгельма я люблю, а не Ягайлу!

Алясніцкі. Вільгельма ты магла любіць прынцэсай! Для каралевы пачуцці — раскоша. Гэта абавязак і цяжкі крыж.

Ядвіга. Я не здолею яго несці.

Алясніцкі. Айцец наш нябесны ніколі не ўскладзе на чалавека той цяжар, які чалавеку не пад сілу. Цябе ніхто не думаў рабіць каралевай. Каб не Яго воля, ты б была ўжо жонкай Вільгельма і прынцэсай аўстрыйскай.

Ядвіга. Гэта была воля майго бацькі!

Алясніцкі. Хто памірае, вуснамі таго сам Бог гаворыць.

Ядвіга. Няўжо Бог хоча, каб я пайшла ў абдымкі дзікуна?

А л я с н і ц к і. Гэты дзікун — уладар Вялікага княства. Княства, аб якое разбіваюцца хвалі татарскай навалы. Ваша вялікасць, няўжо вы не хочаце, каб гэта княства называла сябе Каронай? Ці вы не дачка Польшчы?

Я д в і г а. А ці ўсё павінна рабіць дачка дзеля маці сваёй?

А л я с н і ц к і. Дзеля маці не ўсё, дзеля Айчыны — усё.

Я д в і г а. Я павінна пабачыць Вільгельма.

А л я с н і ц к і. Няма патрэбы. Прынцу яшчэ ўчора паведамлена, каб ён не спадзяваўся на руку польскай каралевы.

Я д в і г а. І на сэрца?

А л я с н і ц к і. Сэрца каралёў у руцэ Боскай. Ты возьмеш на сябе смеласць распараджацца тым, што трымае Ён? Скарыся Яго волі і зрабі Айчыну шчаслівай.

Я д в і г а

А што, калі адмовіцца я мушу?

А л я с н і ц к і

Тады кроў Польшчы будзе на табе!
Мы лічым, што Пан Бог цябе абраў
Дзяржавы служкай і анёлам веры,
Што панясе яе ў пушчанскі край
І між ліцвін паганскіх распаўсюдзіць
Збавіцеля адзіны існы вобраз
І веры каталіцкай светлы дух!
Ты вольная абраць усё людское,
Жыць для сябе! Вільгельму ўсё аддаць!
І песціць сваё цела ў асалодзе!
Тады для Польшчы будзе Боскай карай,
Выпрабаваннем, крыжам на плячах
І заняпадам твой пасад, Ядвіга!
Ты — выбірай, мы прымем... Ўсё ад Бога.

Я д в і г а *(падае на калені)*

Даруй мне, о, даруй, святы айцец!

А л я с н і ц к і

Ядвіга-каралева, падыміся.
Ядвіга-маці і сястра — заплач.

Ядвіга падымаецца.

Будзь мужнай, цябе просяць твае дзеці,
Ты сёння сваё цела аддаеш,
Як мудрая ваўчыца, ваўчанятам
На ростанях спустошанай зямлі,
Каб выжылі і каб далей пайшлі!
*(Выходзіць.)*

Я д в і г а

О, Маці Боска! Памажы! Ці ж я стрываю?!
Што сэрца адмаўляе — я прымаю...

Уваходзіць Я г а й л а.

Я г а й л а

Сястру вітае брат! Князь — каралеву.
І, ўкленчыўшы, уся Літва, Жамойць і Русь
Вітаюць вас, чароўная Ядвіга!

Я д в і г а. Я буду вашай жонкай, князь. Няма маёй волі, ды тое, што напісана на нябёсах, не нам перапісваць.

Я г а й л а

Я не хачу быць вам агідным мужам,
Дазволь мне толькі быць тваім рабом!
Клянуся пушчай, сонцам і зямлёю —
Ні дотык мой, ні позірк, ані слова
Цябе ні ў чым ніколі не абразяць.
Ты — вольная любіць каго захочаш!
Дай служкаю любові гэтай быць...

Я д в і г а

Даволі, князь! Спыніцеся!

Я г а й л а

Я сам употай ноччу прывяду
Абранніка. І буду вартаваць
Каханне ваша. Як сабака верны
Спакой гаспадароў вартуе ля дзвярэй.

Я д в і г а. Князь Уладзіслаў! Я дачка караля! І мне вядома, што такое абавязак!

Я г а й л а

Што абавязак закуе і звяжа,
Дык сэрца вызваліць, адпусціць і развяжа!

Я д в і г а. Я не абяцаю вам кахання, але вернасць і павагу захаваю да смерці. Карона — ваша.

Я г а й л а

Не трэба ні карона, ні пасад,
Ні золата, ні срэбра, ні алмазы!
Дай толькі побач жыць з табой і дыхаць
Паветрам, тым, што вусны цалавала
Найлепшага стварэння Пана Бога!

Я д в і г а. Даволі!

Я г а й л а

Каханая! Цябе адну чакаў,
Чакаю і чакаць да смерці буду!
Хай рай мне прапануюць без цябе —

Адмоўлюся! Не варта звацца раем
Усё, што не асвечана табой.
Тваёй усмешкай, постаццю, вачыма.

Я д в і г а. Князь!

Я г а й л а

Я сам у пекла лютае пайду
І прашаптчу закляцце, як малітву.
Імя святое для мяне Яд-ві-га.

Я д в і г а. Князь, вы грэшнік!

Я г а й л а

І ў гэтым пекле з'явяцца святло,
Любоў, і радасць, і маё збавенне,
Каханая! Ты для мяне — закон.
Скажы, каб знік,— я назаўсёды знікну.
І рэштку дзён у пушчы правяду.
Скажы забіць сябе — я пракалю
Кінжалам сэрца, у якім твой вобраз.
Не пашкадую сэрца! Пашкадую,
Што разам з сэрцам вобраз згіне твой.

Я д в і г а

Князь!

Я г а й л а

Я пайду...

Я д в і г а

Падайце, рыцар, мне сваю руку.

Ягайла бярэ руку Ядвігі, цалуе і падае ў непрытомнасці.

Сюды! Дапамажыце! Князю дрэнна!

Прыбягаюць в а р т а і А л я с н і ц к і.

Збялеў увесь! Ляжыць, як нежывы!

А л я с н і ц к і

Што ён зрабіў?

Я д в і г а

Руку пацалаваў.

А л я с н і ц к і

Пацалаваў руку і змаху вобзем?!
Гарачы муж. Падайце нам віна!
Ад шчасця, каралева, не ўміраюць.
У сэрцы князя закіпела кроў.

Я г а й л а *(апрытомнеў)*

Аджыў я, каб памерці зноў і зноў...
*(Цалуе руку Ядвігі.)*

Усе п'юць віно.

## Сцэна чацвёртая

Крэва. Перад уваходам у замак. Уваходзяць стражнікі і княгіня Анна з Алёнай.

Першы стражнік. Хто тут? Хто каля замка ноччу ходзіць?

Алёна. Прыехала вялікая князёўна Анна з Гародні. Чаго ты ўстрывожыўся?

Другі стражнік. Трывожна, дзеўка... З самага Купалля на Крэва не ўпала ані кроплі дажджу. Хмары ходзяць кругамі, ліюць дажджы на ўсё наваколле, а над Крэвам неба як страха. Вычарпаны ў замку калодзежы, ваду ў ручаях выпіла зямля, сабакі выюць ад смагі.

Першы стражнік. Мой дзед гэткага не помніць. Пярун на зямлю пакрыўдзіўся.

Алёна. Перуна няма! Ёсць Бог.

Першы стражнік. Пярун ці Бог, а ўсе мы во-ох!

Княгіня Анна. Дзе Вітаўт?

Другі стражнік. Гэтага не знаем. Кажуць, што ў Вільні спрэчка між братамі ўсчалася. Пасля яе Ягайла з'ехаў у Кракаў, а Вітаўт знік некуды. Усіх ратнікаў паднялі на ногі Крэва ахоўваць, а ад каго ахоўваем — немаведама.

З'яўляецца Люцень.

Люцень

З кім каля замка варта размаўляе?

Княгіня Анна

Са мною.

Люцень

Ваша справа вартаваць
Вароты ад няпрошаных чужынцаў,
А не часаць аб зубы языкі!

Княгіня Анна

Маўчаць, халоп! Перад табой княгіня!
Стань на калені і закрый свой рот,
Каб словамі мне вушы не паскудзіў!

Алёна

Скарыся, вой. Аднойчы не скарыўся
Адзін...

Люцень

Дык што?

Алёна

Цяпер гарбатым ходзіць.

Княгіня Анна

Вядзі мяне да Вітаўта. Да мужа.

Люцень

Даруй, княгіня. Гэта не змагу.
Загад Ягайлы надта строгі маю —
Нікога да яго не падпускаць.

Княгіня Анна

Ты да яго нікога не падпусціш.
Ён — гэта я, а я ўся — толькі ён!
Ў Пісанні Богам так занатавана.

Люцень

Скараюся... Не быць жа мне гарбатым.
Гэй, стража! Хай княгіню адвядуць
Да Вітаўта ў пакой!

Княгіня Анна і Алёна накіроўваюцца да ўвахода.

Ты куды?

Алёна

Ну як куды? Іду служыць княгіні.

Княгіня Анна

Ці, можа, ты мяне там будзеш распранаць
І ложа падрыхтуеш мне і князю?

Люцень

Няхай княгіня дзёрзкасць мне даруе.
Хто служыць — паслухмяным мусіць быць.
Праводзьце іх да Вітаўта ў пакоі.

Усе разыходзяцца.

## Сцэна пятая

Пакой у замку. Вітаўт нерухома ляжыць на шкуры зубра.

Вітаўт

О, літасцівы Божа! Ну, няўжо ж
Хто хоча міру людзям і спакою,
Як ты, павінен узысці на крыж,
На плаху легчы, у агні згарэць
Ці быць закатаваным у цямніцы?

З'яўляецца Купала.

Купала

Пад месячным святлом натоўп гуляе,
Ад промняў сонца люд мой уцякае.

Праславіць тых, хто бурыць, забівае,
Забудзе тых, хто любіць і стварае.

Вітаўт

У пастку, як дурное зубраня,
Я трапіў праз даверлівасць да брата.
Забіты бацька, страчаны пасад,
Пагібель сёння княству пагражае!
Збавіцель! Колькі ж трэба дараваць
Разоў таму, хто саграшыць і здрадзіць?
Ты патрабуеш сем разоў па сем...
Але ж майго жыцця тады не хопіць.

Уваходзіць Ваявода.

Ваявода. Дзе загадае вялікі князь паставіць віно і ежу?

Вітаўт. З сабачых лапаў вялікі князь есці не будзе.

Ваявода. Дарма крыўдуеш, князь... Супраць цябе на маім сэрцы няма злога. Я служу Ягайлу гэтак жа, як бы служыў табе, каб Бог распарадзіўся быць тваім служкай. Дзе паставіць віно?

Вітаўт. Пайшоў прэч!

Ваявода. Я ведаю, што сам ты не п'еш і не ясі... аднак княгіню накарміць ты мусіш.

Уваходзяць княгіня Анна і Алёна.

Княгіня Анна

Мой князь!

Вітаўт

Княгіня Анна! Пачакай!
Пакуль тут будзе паслугач Ягайлы,
Я пальцам да цябе не дакрануся.

Ваявода

Я выйду. Хай мне слова дасць княгіня,
Што не пакіне яду ці кінжал
Для князя.

Княгіня Анна

Я клянуся Перуном:
Нічога тут яму я не пакіну.

Ваявода

Княгіні слова — лепшая ахова.
*(Выходзіць.)*

Вітаўт

Як ты дазналася, што я у Крэве?

Княгіня Анна

Алёна нам у гэтым памагла.

Яна — вядзьмарка. Чуе за паўсвету
Таго, каго палюбіць. Так ці не?

А л ё н а

Так.

К н я г і н я А н н а

Ну, дык вось, калі цябе схапілі
У Вільні і у Крэва павязлі,
Яна мяне прымусіла прыехаць
Сюды. Каб свайго князя ўратаваць.
А як яго адгэтуль уратуеш?

А л ё н а

Не ведаю.

К н я г і н я А н н а

Тут стражаў — як сабак.
На ногі ўсіх паўсюль падняў Ягайла,
Дзіўлюся, як цябе ён не забіў.

В і т а ў т

Кроў Кейстута і Вітаўта не вып'еш
Адразу. Трэба трохі адпачыць.

К н я г і н я А н н а

Падай віна для князя. Потым — выйдзі.
І за дзвярыма крыху пачакай.
Ты што, аглухла?

А л ё н а

Небяспеку чую.
Хай светлая княгіня пацярпіць,
Усё вельмі хутка скончыцца павінна.
Сюды ідуць!

Уваходзіць В а я в о д а.

В а я в о д а *(Алёне)*. Скажы князю і княгіні: прыбыў ганец. Праз колькі часу павінен прыехаць Ягайла са сваёй каралевай. Ён цяпер польскі кароль і каталік. Палякі аддалі яму сваю Ядвігу. Хай княгіня развітваецца з князем і ад'язджае на бацькаўшчыну. Баімся гневу Ягайлы.

А л ё н а. Дай ім разам пабыць колькі часу, добры Ваявода. Немаведама, ці стрэнуцца муж з жонкай. Скажу па сакрэту: княгіня хоча нарадзіць і зоркі цяпер спрыяюць гэтаму. Я стану вось тут у кутку і буду маліцца, а ты прасачы, каб грэшныя вушы не ўзслухалі тое, што ніхто, апроч двух, слухаць не павінен. Бог узнагародзіць цябе.

В а я в о д а. Хай так будзе. Я адвяду ад дзвярэй стражнікаў. Можаш выйсці і ты.

А л ё н а. Калі я малюся, я нічога не чую і не бачу... Да таго ж гаспадыня прывыкла, што я заўсёды побач.

**В а я в о д а.** Як ведаеш. Часіна ёсць у іх. *(Выходзіць.)*

Алёна нервова пачынае скідваць з сябе вопратку.

**А л ё н а**

Мой любы, мой каханы, мой адзіны,
Далёкі мой і блізкі для мяне...

**К н я г і н я А н н а**

Ты з глузду з'ехала! Спыніся! Што ты робіш?!

**А л ё н а** *(распранаецца)*

Ты слодыч неба і мая пакута,
Ты радасць і пякельная журба...

**К н я г і н я А н н а**

Князь, не глядзі! З ёй водзіцца нячысцік!

**А л ё н а**

Цяпер, мой княжа, распраніся ты,
Мы тут з табой мой шлюб смяротны справім...

**К н я г і н я А н н а**

Вар'ятка! Ведзьма!

**В і т а ў т**

Анна, памаўчы!
Сам Бог яе паслаў мне на збавенне.
*(Пачынае распранацца.)*

Мяняюцца вопраткаю.

**А л ё н а**

Малю Хрыста і ўсіх нашых багоў,
Каб адвялі хваробы і напасці
І ад цябе і ад княгіні Анны,
Каб у сям'і тваёй быў лад і згода,
Любоў...

**К н я г і н я А н н а**

Даволі! Ні глядзець, ні слухаць
Я болей не магу і не хачу!!!

**А л ё н а**

Князь! Стань у кут і ціха там маліся.
Табе ж, княгіня, зараз давядзецца
Абняць мяне на ложы, як яго!
Я на хвіліну стану табе мужам!

Вітаўт апускаецца на калені ў куце. Княгіня Анна і Алёна кладуцца на шкуру зубра.

Трымай мяне ў абдымках вельмі моцна,
Калі яго шчэ хочаш патрымаць.
І словы мне пяшчотныя кажы!

Увaходзiць **Ваявода.**

**Княгіня Анна**

Мой князь! Мой муж! Мой любы, слаўны Вітаўт...

**Ваявода**

Ягайла блізка!

**Княгіня Анна**

Дзверы зачыні!
І вочы апусці, каб не аслепнуць!

**Ваявода**

Даруйце мне! Ягайла пад'язджае.
Даволі, што ў яго ў палоне Вітаўт.
Навошта ж тут і ўся яго сям'я?

**Княгіня Анна**

Мы развітаемся! Звярні да сценаў вочы!

**Ваявода**

Я не гляджу.

**Княгіня Анна**

Бывай, бывай, мой муж!
Бывай і ведай, што тваю душу
Я панясу з цямніцы ў сваім лоне!
*(Цалуе Алёну. Шэптам.)*
За князя — дзякуй. Гэта ж ад мяне!
*(Б'е яе далоняй па твары.)*
За пацалункі ўночы на Купалле.
*(Гучна.)*
Алёна, ўстань! І з князем развітайся!
Маліцца і ў Гародні будзе час.

Вітаўт падыходзіць да Алёны і схіляецца перад ёй.

**Алёна**

Бывай, мой князь, бывай.

**Княгіня Анна**

А ты, Алёна,
На развітанне князя пацалуй.

Вітаўт абдымае Алёну.

Даволі! Ўсё! Вядзі нас, Ваявода!

**Ваявода**

Сюды, за мной. Даруй, вялікі князь...

**Княгіня Анна**

Ідзі, ідзі! Хай Бог табе даруе.

**Ваявода, княгіня Анна і Вітаўт** у вопратцы Алёны выходзяць.

Алёна

Ну вось і ўсё. Бывай, мой любы Вітаўт...

З'яўляюцца *Купала* і *беражніцы.*

Купала

Сястра, рыхтуйся да мяне прыйсці
Празрыстай, чыстай, лёгкай беражніцай
З касою доўгай светлага туману,
Каб, жывучы нябачнай для людзей,
Аберагаць усіх маіх дзяцей...

Беражніцы *(водзяць вакол Алёны карагод)*

Каліна-маліна
Бліз тыну стаяла
Ды на тын галлё клала,
Красою красавала,
Расою ападала.
Малада Алёначка
Расою ападала.
Малада Алёначка
Расою ўмывалася,
Касою ўціралася,
Да шлюбу прыбіралася.
*(Танцуюць вакол Алёны.)*

## Сцэна шостая

Другі пакой у Крэўскім замку. Ягайла і Ваявода.

Ягайла. Хай усе ліцвіны ведаюць: з гэтых часоў у Вялікім княстве Літоўскім веры паганскай няма. Той жа, хто паклоніцца Перуну або возьме ўдзел у брыдкіх абрадах Купалы,— той не ліцвін і вораг князю.

Ваявода. Ну, з Перуном яшчэ сяк-так можна зладзіць, а вось Купалу з ліцвінаў ніколі не вытравіш.

Ягайла. Вытравім. Апроч таго, ва ўказе паведаміць, што вялікі князь Ягайла, стаўшы каралём польскім Уладзіславам, прысягнуў усіх ліцвінаў, як мужчын, так і жанок усякага стану, роду і чыну, каторыя жывуць у граніцах Літоўска-Рускай дзяржавы, да якой бы ні належалі веры,— упрасіць, угаварыць, прызваць, а калі трэба, нават прымусіць прымаць веру каталіцкую!

Ваявода. Князь! Нельга так часта мяняць багоў! Вера ад гэтага слабне.

Ягайла. Бог — адзін. І вера павінна быць для ўсіх адна.

В а я в о д а. Нават пеўні ў Крэве кукарэкаюць інакш, чым у Гародні. Дзе ўжо прымусіць люд аднолькава маліцца?

Я г а й л а. Не будуць аднолькава маліцца — будуць аднолькава стагнаць. Што Вітаўт?

В а я в о д а. Пад аховай. Не есць і не п'е. Маўчыць. Даруй, што асмельваюся даваць параду: трэба памірыцца з братам і знайсці забойцу Кейстута. Іначай не будзе табе спакою ні на княскім пасадзе ў Вільні, ні на каралеўскім у Кракаве. Вітаўта любіць смерд, любяць жыды, рамеснікі і гандляры. Я баюся, каб ён не памёр. Хто нам паверыць, што не мы яго забілі?

Я г а й л а. Прывесці яго.

В а я в о д а. Слухаю князя.

Я г а й л а. Не слухаю князя, а слухаю, ваша вялікасць.

В а я в о д а. Даруйце, ваша вялікасць. *(Выходзіць.)*

Я г а й л а

Гэй, Люцень!

Уваходзіць Л ю ц е н ь.

Ты мне зможаш адказаць,
Як, і калі, і кім забіты Кейстут?

Л ю ц е н ь

Змагу, кароль.

Я г а й л а

І скажаш мне дакладна?

Л ю ц е н ь

Хіба твой верны служка памыляўся
Хоць раз?

Я г а й л а

Дык хто ж забіў? Кажы!

Л ю ц е н ь

Той, хто калісьці князем быў Ягайлам
І веры праваслаўнай.

Я г а й л а

Замаўчы!

Л ю ц е н ь

Даўно твае загады Люцень слухаў
Не з вуснаў і вушамі, а з душы.
І з сэрца. Надта ганаруся...
Што здагадаўся: золата і смерць —
Адно. І з гэтай чары нежывыя п'юць.

Я г а й л а

Крумкач!
*(Б'е яго кінжалам.)*

Л ю ц е н ь

Бывай, бывай, кароль мой любы,
Цябе я дачакацца мушу там.
Адно жыццё з табой — адзіны дар,
Адзіны лёс, адзіны гаспадар.
*(Зацiскаючы рану, выходзiць.)*

Я г а й л а

Цяпер мне можна з братам гаварыць.

С т р а ж н і к і прыводзяць А л ё н у ў вопратцы Вітаўта.

Вітаю брата! Маю спадзяванне,
Што ты ўжо супакоіўся. Як мог
Ты толькі уявіць сабе такое,
Што я падняў на Кейстута руку,
Табе свой меч прылюдна перадаўшы?
Цяпер кароль я польскі. І табе
Пасад хачу аддаць ў Вялікім княстве.
Чаму ты адвярнуўся?

Уваходзіць В а я в о д а з г а н ц а м і.

В а я в о д а. Князь, ганцы!
Я г а й л а. Прэч! Ці галава ўжо муліць плечы?!
В а я в о д а. Выслухай іх, потым можаш секчы галовы.
Я г а й л а. Гэй, стража!
В а я в о д а

Здаліся Трокі толькі што.

Я г а й л а

Каму?

П е р ш ы г а н е ц

Іх захапіў твой брат, вялікі Вітаўт.

Я г а й л а

Мой брат? Князь Вітаўт? Трокі захапіў?

Д р у г і г а н е ц

Тэўтонцы з ім.

Я г а й л а

О, бедны я, няшчасны!
А Вітаўта пабачылі хоць вы?

П е р ш ы г а н е ц

Так, як цябе.

Я г а й л а

Дык, вылюдак, памры!
Бо Вітаўт — вось ён, у маім палоне!
*(Забiвае першага ганца мячом.)*

В а я в о д а

Князь, супыніся!

Ягайла

Я не князь! Кароль!

Першы ганец

Дарма ўзяў грэх ты на сваю душу.
Я Вітаўта там бачыў. Паміраю.
*(Памірае.)*

Ваявода

Ты ўсё пачуў! Хто ж перад смерцю хлусіць?

Другі ганец

Калі я вінаваты ў тым, што бачыў,
Забі й мяне!

Ягайла

Хто ж тут тады стаіць?!
*(Паварочвае тварам да ўсіх Алёну ў вопратцы Вітаўта.)*
Тут здрада! Здрада! Варта, да мяне!

Збягаюцца стражнікі.

## Сцэна сёмая

Двор у замку. З'яўляюцца два стражнікі. Яны вядуць Алёну.

Другі стражнік. ...І тады яна перакінулася ў перапёлку, прыляцела ў замак і ўвайшла ў цела Вітаўта... І ў адным целе дзве душы атрымалася. Адна — бабская, другая — мужчынская. Разумееш?

Першы стражнік. Не. А ты разумееш?

Другі стражнік. І я не разумею. Гэта цуды Купалы!

Першы стражнік. А што далей?

Другі стражнік. Потым з гэтага цела Вітаўтаву душу яна, канечне, выпхнула,ператварыла гэту душу ў сокала і загадала ляцець у Гародню. Там ён перакінуўся зноў з сокала ў Вітаўта, сабраў войска і рушыў на Трокі.

Першы стражнік. Дзіва дзіўнае!

Другі стражнік. І за гэта вядзьмарства яе зараз будуць паліць. Трэба назбіраць трэсак. Тыя дровы, што кінеш у агонь, на якім пячэцца ведзьма, чэрці дастануць з-пад цябе, калі будзеш смажыцца ў пекле.

Першы стражнік. А хіба мы трапім у пекла?

Другі стражнік. А то куды ж?

Першы стражнік. Тады пайшлі па трэскі.

З'яўляецца Ягайла.

Я г а й л а

Можаш сказаць, што хочаш, прыгажуня?

А л ё н а

Хачу сказаць: шчаслівая... кахаю...

Я г а й л а

Ты на Літву наклікала вайну!
Я б з Вітаўтам даўно ўжо памірыўся
І перадаў бы ў Вільні свой пасад,
Каб тут ён быў.

А л ё н а

Купала, памажы!

Я г а й л а

А зараз ён збірае ваяроў,
І ўсе ліцвіны зноўку будуць біцца,
Паліць, бурыць, спустошаваць зямлю!
Скажы, хто дапамог табе?

А л ё н а

Купала.

Я г а й л а

Цябе за гэта спаляць!

А л ё н а

І няхай,
Я пасля смерці стану беражніцай.
Наша Купала кожны год гарыць,
Наступным летам прылятае зноўку.

Я г а й л а

Язычніца! Вядзіце!

П е р ш ы  с т р а ж н і к

Што ж... пайшлі.
Пайшлі, дачушка, з Богам сустракацца.
Пад кожным, мабыць, будуць свае трэскі,
І свой агонь нам выпаліць грахі...

Алёна падыходзіць і цалуе Ягайлу.

А л ё н а

Я дзякую табе, мой любы браце...
Што ты любоў у сэрца дапусціў.
Цяпер абодвух зберагаць я буду.

Я г а й л а

Вядзіце!

С т р а ж н і к і выводзяць А л ё н у.

Затрымцела ўсё ўва мне,
Які салодкі пацалунак ведзьмы!
Яна напраўду, мабыць, чараўніца.

Уваходзіць В а я в о д а.

Што скажаш, Ваявода?

В а я в о д а. Скажу, хай здохне, не пакінуўшы нашчадкаў, той, хто забіў Кейстута. У княстве разбурэнне, заняпад. Вітаўт у Троках рыхтуецца пайсці на Крэва. Сяляне кінулі палеткі і тачаць на нас косы! Рамеснікі ўзяліся за мячы! Вялікі князь, кароль! Памірыся з братам! Хопіць таго, што ты падзяліў нас на праваслаўных і католікаў. Не дзялі на сваіх і Вітаўтавых. У мяне сын у Троках. Што, калі ён прысягнуў Вітаўту і заўтра я сыдуся з ім меч на меч? Не стрывае зямля, і расколюцца нябёсы.

Я г а й л а. Колькі зможа пратрымацца Крэўскі замак?

В а я в о д а. Палякі не паспеюць падысці. Дый ці пойдуць яны? З Вітаўтам просты люд: рамеснікі, гандляры, хутаране. З Вітаўтам — крыжакі!

Я г а й л а. Сам Камандор?!

В а я в о д а. Сам Камандор... Дапамагаў усталёўваць справядлівасць табе, цяпер ваюе за справядлівасць на баку Вітаўта... Даруй, князь... Даруй, кароль... Ліцвіны лічаць, што ты задушыў Кейстута, і за гэта перадушаць усіх тых, хто цяпер у Крэве і служыць табе.

Я г а й л а. Што каралева Ядвіга?

В а я в о д а. Спачывае.

Я г а й л а. Хай спачывае. Дай мне адзінаццаць ратнікаў. Тых, хто не баіцца пакласці галаву на плаху.

В а я в о д а. Досыць будзе і дзесяці. Я сам пайду з табой.

Я г а й л а. А хто застанецца з войскам і з каралевай?!

В а я в о д а. Калі вернемся, дык вернемся, а не... Вітаўт ваяводу знойдзе і каралеву не пакрыўдзіць.

Я г а й л а. Застанешся ў Крэве! Калі праз дзень я не вярнуся — адчыняйце вароты і прысягайце Вітаўту.

В а я в о д а. Тады ведай, што нікому, апроч цябе, вароты ў Крэве не адчыню! Пакуль дастане сілы, буду біцца!

Я г а й л а. Калі не шкада галавы — ідзі.

В а я в о д а. Той не п'яніца, што шкадуе золата, і той не ваявода, хто шкадуе галавы. *(Выходзіць.)*

Я г а й л а

Бывай, мая каханая, бывай,
Ты жонкай не паспела стаць Ягайлу,
І нехта іншы ўвойдзе да цябе,
Каб на зямлі ды ў светлы рай патрапіць.
Я ж, каб з душы і сэрца плямы сцерці,
Сам палячу ў абдымкі лютай смерці.
*(Выходзіць.)*

## Сцэна восьмая

Трокі. Двор у замку. Уваходзяць В і т а ў т і К а м а н д о р.

К а м а н д о р

На Крэва пойдзе першым легіён,
Свой строгі строй тупой стралой зрабіўшы,
Яшчэ завуць яго заўжды свіннёй,
Бо, як дзіка, яго спыніць няможна.
Багата гарадоў ключы здавалі,
Угледзеўшы, як горда і няўмольна
Ідзе на іх крыжастая страла.

В і т а ў т. Ты і на Кейстута выпускаў гэтую свінячую стралу?

К а м а н д о р. Ах, князь! Калі хочаш парадку ў сваім доме, пільна сачы за тым, каб парадак быў і ў суседа. Бунт — як чума. Калі ўскочыла да суседа, улезе і ў тваю дзяржаву. Я толькі дапамагаю навесці парадак, бо самі вы яго ніколі не наведзяце. Вы добра ўмееце ваяваць і грызці адзін аднаму глоткі, а жыць вы не ўмееце.

В і т а ў т. І, апроч парадку, Тэўтонскаму ордэну нічога не патрэбна?

К а м а н д о р. Толькі парадак.

В і т а ў т. Першымі на Крэва пойдуць мае дружыннікі.

К а м а н д о р. Князь!

В і т а ў т. Першымі пойдуць дружыннікі! А ўсе твае свінні ўслед.

Уваходзіць д р у ж ы н н і к.

Д р у ж ы н н і к. Вялікі князь! Да цябе пасол з Кракава.

В і т а ў т. Кліч!

Уваходзіць А л я с н і ц к і.

А л я с н і ц к і. Каралеўскі сойм вітае князя Вітаўта...

Д р у ж ы н н і к. Вялікага князя...

А л я с н і ц к і. ...Вялікага князя Вітаўта і жадае, каб Пан Бог спрыяў яму.

В і т а ў т. Дзякую...

А л я с н і ц к і. Каралеўскі сойм мусіць папярэдзіць вялікага князя Вітаўта, што вялікі князь Уладзіслаў з ласкі Боскай кароль Польшчы...

В і т а ў т. Ну дык што?

А л я с н і ц к і. ...І што ваяваць з ім — значыць ваяваць з Польшчай.

В і т а ў т. Я ваюю з Ягайлам! З забойцам свайго бацькі і клятвaадступнікам! І не ведаю ніякіх каралёў Уладзіславаў! Калі

ў вас у Кракаве на каралеўскім пасадзе братазабойца — гора вам і вашай дзяржаве. Калі Польшча абараняе забойцу майго бацькі — буду ваяваць з Польшчай! Так і перадай, поп, свайму каралеўскаму сойму!!

А л я с н і ц к і. Я не поп, я — біскуп...

В і т а ў т. Ды ўсе вы аднолькавыя! Сёння прапаведуеце Хрыстова «не забі», а заўтра бласлаўляеце мячы ратнікаў секчы слабых суседзяў. І толькі за тое, што яны чужынцы і хочуць жыць па-свойму. А ці не казаў Хрыстос, што няма ні элінаў, ні іудзеяў і што ўсе мы дзеці Боскія?

А л я с н і ц к і. Ці не сабе ты гэта гаворыш, вялікі князь? Зірні: твой госць надта задаволены. Калі мы перагрызёмся, ён лёгка паставіць свой крыж і на Вялікім княстве Літоўскім, і на Польшчы. Сын мой...

В і т а ў т. Ідзі, святы айцец, я не каталік.

А л я с н і ц к і. Хай судзіць цябе Бог, але дазволь Богу судзіць і твайго брата... *(Выходзіць.)*

В і т а ў т

Дружыны хай наперад зараз выйдуць!
А рыцары за імі пойдуць следам.
На Крэва ўсе!

Д р у ж ы н н і к

Вялікі князь! Ягайла
Да замка падыходзіць ад ракі!

В і т а ў т

Ах, дык ты сам прыпоўз сюды, сабака!
За сценамі не варта нам сядзець!
Адкрыць вароты! Выйсці ўсім у поле!

Д р у ж ы н н і к

Там гэткая дружына, што стрымаць
Любую колькасць войска зможа лёгка.

В і т а ў т

Цяпер мяне ніхто стрымаць не зможа!

Д р у ж ы н н і к

Дванаццаць іх. І без мячоў ідуць.
Так некалі і ты ішоў на Трокі.

В і т а ў т

Пусціце іх...

Уваходзіць Я г а й л а са сваімі р а т н і к а м і.

Я г а й л а

Даруй мне, крэўны брат,
За ўсё, у чым я вінен і нявінен.
Жыве ў душы святло і чарната,

Хто ў думках саграшае — той забойца,
Хоць і загад забіць не аддаваў.
Падумай толькі злое, выканаўца ж
Сам знойдзецца і зробіць для цябе
Усё, што ты ў душы паганай песціў!
Забойцу, брат мой, я ў душы забіў
І чарнату нікчэмнаю рабой зрабіў,
Хоць быў учора сам яе рабом.
Вось галава забойцы князя-бацькі
І дзядзькі майго Кейстута.
*(Выкідвае з мяшка галаву Люценя.)*
Халуй,
Пачуўшы ад мяне, што медзь — жыццё,
Хвароба — срэбра, золата — пагібель,
Рашыў, калі я з золата падам
Каму віно, то гэта не пашана,
А тайны знак яму, што гэтага — забі!
У Вільні ўсе мы Кейстута чакалі
І чару залатую для яго
Трымалі. Каб за мір ён з намі выпіў.
Вар'ят жа ў Крэве Кейстута забіў.

Вітаўт

Чаму ты не прывёз яго жывым,
Каб твае словы ён для нас пацвердзіў?!

Ягайла

Я ў гневе не ўтрымаўся і зарэзаў
Пачвару гэту. А цяпер — рашай,
Мой лёс, маё жыццё рашай ты, Вітаўт,
Калі я вінаваты — засячы. А не —
Хай прынясуць мой меч. Ён там, у полі,
На тым жа месцы твой калісь тырчаў.
Адзін прыму я смерць ці мір. Адзін.
Хай больш ліцвіны між сабой не б'юцца.

Вітаўт

Ягайла, я табе заўсёды верыў,
А гэта вера несла кроў і смерць!
Баюся, што і зноўку будуць біцца
Ліцвіны ўсе, як лютыя звяры,
Каб выправіць твой грэх і крывадушша
Перад зямлёю роднай і прад Богам!
Хай гэтым разам толькі Ён рашае
Твой лёс і мой. Прынесці меч сюды!
Мы будзем зараз біцца, і калі
Ты не ўтрымаеш меч велікакняскі,

Дык гэта будзе верны знак з нябёсаў,
Што ты забойца Кейстута! Што зноў
Ты хлусіш! І тады, Ягайла,
Я засяку цябе. Калі ж
Свой меч мне утрымаць не стане сілы,
Я на калені стану прад табою,
Да смерці мушу быць тваім рабом!

Я г а й л а

Хай будзе так.

В і т а ў т

Меч князю прынясіце!

Ягайлу прыносяць меч.

Я г а й л а

Мы пачынаем!

В і т а ў т

Дык судзі ж нас, Бог!

Б'юцца.

*(Выбівае ў Ягайлы меч.)*
Нябёсы падалі свой верны знак,
Аднак хачу пачуць яшчэ прызнанне!
Ты загадаў, каб Кейстута забілі?!

Я г а й л а

Сячы! Калі нябёсаў блаславенне
Ты атрымаў, нашто мне гаварыць?

Вітаўт падымае меч. З'яўляюцца к н я г і н я А н н а і к а р а л е в а Я д в і г а.

К н я г і н я А н н а

Спыніся, Вітаўт! Хіба хочаш ты,
Каб твой народ лічыў цябе за ката?!
Ты Бога спакушаў турнірам гэтым!
І ці не д'ябал знак табе падаў?

Я д в і г а

Мой брат! Няўжо сваю сястру,
Што яшчэ мужа нават не спазнала,
Маркотнаю ўдавою зробіш ты?
Пасварыш Польшчу родную з Літвою?

Я г а й л а

Сячы! Ці даспадобы прыніжэнне
Найлепшай і цудоўнейшай з жанчын?!

Я д в і г а

Даруй усім, і Бог табе даруе,

Я на калені стану: зберажы
Спакой і лад у дзвюх сваіх дзяржавах,
Не стань братазабойцам.

В і т а ў т

Ўся Літва
Схіляецца прад вамі, каралева.
*(Ломіць свой меч і параньвае руку.)*
Мой брат, ты бачыш, я руку парэзаў
Абломкам вострым княскага мяча.
Бяры яе...

Ягайла ломіць свой меч і параньвае руку.

Я г а й л а

А вось табе мая...
Тут кроплі ёсць Рагнеды, Рагвалода,
Міндоўга, Гедыміна, і ў цябе
З рукі сцякаюць гэтакія ж кроплі.
Давай іх злучым.

Вітаўт і Ягайла злучаюць рукі.

Д р у ж ы н н і к і

Хай жывуць браты!
Вялікія! Ў вялікім нашым княстве!

Я г а й л а. З сённяшняга дня і назаўсёды вялікае княжанне ў Вільні, пасад дзядзькі свайго, вялікага князя Альгерда, і бацькі свайго, вялікага князя Кейстута, возьме вялікі князь Вітаўт! Вялікаму княству Літоўскаму надаюцца правы незалежнай дзяржавы! Гэта мае ўказы як вялікага князя і як караля Польшчы.

Д р у ж ы н н і к і

Бог, блаславі нам Вітаўта на княства!

Я г а й л а

Здабыты мір! Хай будзе ён да скону!
Ўсе ў Вільню! Прымяраць табе карону.

Трубяць у рог. Усе разыходзяцца.

## Сцэна дзевятая

Вільня. Катэдральны сабор. В і т а ў т на каленях у акружэнні н а р о д у і д у х а в е н с т в а.

В і т а ў т

Жыві і веруй, мой святы народ,
Ты ўсклаў на галаву маю карону
І абавязак княства зберагчы,

Абараніць людзей ад злых напасцяў,
І з ворагаў сяброў сабе рабіць,
І сябру даравацъ, калі ён — вораг.
Скарацца, адбівацца, нападаць
І церабіць мячом сваю дарогу!
Як цяжка князем быць і верыць Богу...

З'яўляюцца Купала і Беражніцы.

Купала
І будзе тое, што калісь было,
А што было на гэтым свеце — будзе.
Тры чары ўсе адвеку людзі п'юць,
Медзь, золата і срэбра баль свой правяць!
Хто родзіцца, той мусіць паміраць,
Памрэ ж затым, каб зноўку нарадзіцца.
Ўсё бурыцца, каб зноў нам будаваць,
Будуецца затым, каб разбурыцца.
Ты сёння плачаш, каб смяяцца заўтра,
А потым зноўку будзеш слёзы ліць.
Вайна прыходзіць, каб чакалі міру,
А мір — чаканне новае вайны.
Замкнёны круг да часу да пары,
Гараць, гараць купальскія кастры.

Купала ўскладае на галаву Вітаўта карону. Вакол князя танцуюць беражніцы.

*1993*